*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 14 кастрычніка 1988 г. № 41 (3451) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

## У НУМАРЫ:



Не так часта выпадае адпачыць Марыі Луцковіч. За плячамі ў яе, знатнай даяркі Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці, чвэрць стагоддзя аддадзенай працы. У хвіліны адпачынку хораша думаецца, марыцца. Ці спраўдзяцца яе мары ў маладой змене?

Фота А. КЛЕШЧУКА.

## З пошты «ЛіМа»

● ***Рамонт ідзе шосты год...***

● ***«Мне спадабалася твая мова...»***

● ***Дары песняроў—кнігалюбам...***

●

З газетнай паласы глядзіць паэт («ЛіМ» за 7 кастрычніка). Такі, якім ён найчасцей і бачыцца воку, калі звяртаешся да створанага ім, просіш падтрымаць ці навучыць.

Глядзіць — хатні, ранішні, яшчэ сам-насам з сабою, безабаронны і абаронены магутнай думкай, што неадкладна патрабуе пярэбару з душы ў слова. Ды ў неабыякое слова, а каб ад яго паперы агнём займаліся, як казаў ён Якубу Коласу, складаючы разам зварот да свайго народа, заклік вынішчаць гітлераўскіх забойцаў і грабежнікаў.

Неяк асабліва асветленае аблічча Янкі Купалы павяло і па радках вершаў у свет цяжка перажытага народам некалі і адначасна разнасцежыла прастор прадчуванага, усяго, што ёсць і што яшчэ наперадзе, бо нязменна ў будучыню глядзелі яго вочы, у наступны час гукаў ягоны голас.

Чытаў вершы нібыта ўпершыню, як быццам дасюль не ведаў, не сустракаў у кнігах, не ўспамінаў адзін і з сябрамі ў малых і вялікіх аўдыторыях.

Праўда, даўнавата і дзіўнавата гэтыя вершы зніклі з чытацкіх вачэй, не траплялі нават у акадэмічныя тамы, пазначаныя куды ўжо больш лаважанымі прозвішчамі рэдактараў. А і да таго нацярпеліся яны ўдосыць: канфіскаваліся, выдаваліся за напісаныя на іншай мове, нявечыліся цэнзурнымі нажніцамі самаўладства і не менш жорсткімі спосабамі, уласцівымі царызму.

Здавалася б, надышоў час не абмінаць такія творы, а ўзяць іх наноў аслуханыя сэрцам паэта, наноў выверанымі яго зрокам для прыжыццёвага Збору твораў. Узяць, прачытаць, зразумець і вытлумачыць, каб усім стала відно: калі, чаму і як балела Янку Купалу, што радавала, калі ён з 1905 года няўпынна абуджаў у народзе волю да свабоды, бунт супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Усімі сіламі мужнай душы, мовай стрыманага гневу і гаручай нянавісці, вуснамі, раздзёртымі ў «адзін крык» (першы верш «Мужык»).

Слова нацыянальнага генія непадуладна часу і забыццю. Мы зараз чытаем калісьці адсунутыя ўбок радкі, не, не чытаем, а жывём у іх духоўна, як жыў ён сам. А праз яго падзяляем і жыццё народа, адчуваем крывавы мазоль, церпім голад і холад, згінаемся ўкрук перад сіламі паніжэння.

Пасуе да публікацыі невялічкае слова ўступу. Не навуковец, не паэт, а празаік Барыс Сачанка стараецца вывесці так званыя белыя плямы і слушна называе існаваўшую боязь агалашэння асобных вершаў паэта абкраданнем літаратуры. Каментарый мог быць і шырэйшы, бо даведнік «Янка Купала» хоць і змяшчае аналіз некаторых вершаў, аднак, праз скупы тыраж свой — маладаступны. Дарэчы, у ім не прыгадваецца верш «Над Нёманам». А чытачу цікава было б дазнацца, як быў пакалечаны твор у дарэвалюцыйным выданні «Шляхам жыцця» (Пецярбург, 1913). Пачатак страфы

Так грамадзяне свабоднага
краю
Ёрмы уздзелі, у рабства пашлі.

цэнзура змусіла замяніць двума радкамі шматкроп'яў. Чатыры радкі шматкроп'яў сталі замест наступнай страфы, якая пачынаецца з радка «Ранкам жывога тавару няслава».

Застаўся след купюры і перад апошнім чатырохрадкоўем. Гэта — страта незваротная: відаць, Купала не ўспомніў апушчанага, рыхтуючы Збор твораў 1925—32 гг. ці, можа, яго прытрымалі за руку пужлівыя рэдактары.

Верш «Забраны край» у тым жа пецярбургскім выданні меў прысвячэнне «Балканскім славянам». Інакш надрукаваць радок «Забраны край клічуць устаць», відаць, было нельга. Як жа так? Край клічуць устаць, а ў імперыі «ўсё маўчыць, бо благадзенствуе», як здзекліва ўдарыў па царызме Шаўчэнка.

Канечна патрэбную справу робяць нашы выданні, аднаўляючы ў правах творы, забароненыя праз нейкую недасведчанасць або злую волю, творы забытыя, несправядліва засунутыя ў чорны кут; а таксама ачышчаючы тэксты ад скажэнняў.

Проста крыўдна было сустрэць у газеце поруч з выдатнай купалаўскай падборкай вершаў абвяшчэнне шэдэўрам спектакля «Паўлінка», пастаўленага са скажоным фіналам, перайначаным пастаноўшчыкам. Можна зразумець пачуцці і намаганні аўтара артыкула — як мага лепш абараніць бацьку—пастаноўшчыка спектакля. Аднак праўда не на яго баку. У «Паўлінцы» ігралі найлепшыя акцёры, гэтым і тлумачыцца поспех спектакля ў гледача і пахвальныя водгукі выдатных дзеячаў літаратуры і тэатра Масквы. Але хто ж з іх ведаў, што Купала закончыў п'есу трагічна, а не банальнымі ўцёкамі дзяўчыны ад бацькоў, і такая канцоўка пазбаўляе твор рэвалюцыйнага ладтэксту і выбівае яго з абсягаў свайго часу. Зусім выразна на гэты конт выказалася газета «Звязда» (1984, 22 студзеня). Ад скажэнняў пара адмовіцца, час не дазваляе гаварыць няпраўду.

Яшчэ некалькі слоў — пра юбілейную прамову Купалы.

15-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы адзначалася 24 чэрвеня 1920 года. Лічы, што ў гэты час баі чырвоных часцей ішлі па ўсёй рэспубліцы, Мінск быў вызвалены 11 ліпеня. Акупанты агрызаліся і лютавалі, а Янка Купала не ўважаў на небяспеку, прамаўляў прарочa, горача, натхнёна. Што пачатак вызвалення народа з няволі ўзыходзіць да векапомнага дзевяцьсот пятага (і тады ж нарадзілася яго слова). Што, не зважаючы на церневы шлях, «кінутыя мазолістай рукой здаровыя зярняты зарунеліся»... Клікаў ісці «...З верай і надзеяй к таму вечнаму сонцу праўды і справядлівасці для ўсіх і кожнага паасобку»...

Вялікая мужнасць валодала паэтам у той размове яго з народам, вялікая вера ў блізкае вольнае жыццё без захопнікаў і акупантаў жывіла яго істоту.

Радуюся: зноў пабыў у стваральным паветры паэзіі, падыхаў ім, перачытаўшы незабыўнай сілы творы, ад якіх сталее і робіцца больш пэўнай хада, абуджаюцца ўсё новыя і новыя крокі ў будучае.

Максім ЛУЖАНІН.

●

Сёння прыкмет мінуўшчыны ў Тураве, які ўпершыню згадваецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 980 год, амаль не захавалася. Такая сітуацыя трывожыць грамадскасць, інтэлігенцыю. Вельмі засмуціла яна летась пісьменнікаў — удзельнікаў Тыдня беларускай літаратуры на Палессі. Пра гэта яны з болем пісалі на старонках штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

1000-гадовы юбілей пасёлка прайшоў вельмі сціпла. Яму не было выдзелена ні капейкі дзяржаўных сродкаў, каб што-небудзь пабудаваць ці адрамантаваць. Адно Міністэрства культуры рэспублікі пасадзейнічала, каб у план Мінскага мастацка-вытворчага камбіната ўключылі рамонт мясцовага краязнаўчага музея.

Работы тут пачаліся ў 1983 годзе. Згодна праектна-каштарыснай дакументацыі, выканаць іх патрабавалася на 68 тысяч рублёў са здачай аб'екта ў 1985 годзе. А на 1 жніўня г.г. асвоена толькі 50 тысяч рублёў. Як зразумець такія адносіны дырэктара мастацка-вытворчага камбіната С. Гана да сваіх падрадных абавязкаў, наогул да старажытнага Турава?

Не адно пісьмо ўжо накіравала ў Мінск дырэктар музея В. Марынкіна. А карысці з гэтага? На аб'екце ніколі не працавала больш двух сталяроў. У тое, што да канца года ўсе работы будуць закончаны, верыцца слаба.

Стольні гадоў ад вачэй насельніцтва схаваны 12 тысяч гістарычных экспанатаў! Раней музей штогод наведвалі каля 30 тысяч чалавек. Як падлічыць маральную шкоду ад такога доўгага рамонту?

Хацелася б закрануць яшчэ два пытанні, што датычаць будучай работы музея. Пры раскопках на замкавай гары ў Тураве былі знойдзены два сланцавыя саркафагі. Адзін з іх забралі ў Дзяржаўны музей пераўтварэння прыроды Палесся ў Пінску, дзе ён экспануецца. Другі знаходзіцца ў запасніках у Мінскім краязнаўчым музеі. Работнікі Тураўскага музея хацелі б, каб саркафаг быў перададзены ім.

І яшчэ. Запланавана зрабіць наведанне музея платным. Але ж тым самым будзе закрыты доступ масаваму наведвальніку. Найчасцей тут бываюць школьнікі свайго і суседніх раёнаў. Ці не стане плата перашкодай на шляху знаёмства дзяцей з гісторыяй родных мясцін? Такі неспакой выказвае старэйшая работніца музея экскурсавод Валянціна Міронаўна Карась.

Безумоўна, асобныя падраздзяленні Міністэрства культуры абавязкова неабходна пераводзіць на самаакупнасць і самафінансаванне. Але рабіць гэта трэба ўдумліва і абачліва.

Алесь ЛІСІЦКІ,
слухач Мінскай ВПШ.

●

Гістарычнае мінулае Беларусі, лёсы яе вялікіх сыноў і дачок, грамадскіх дзеячаў і дзеячаў мастацтва, літаратуры— вось што павінна стаць мэтай распрацоўкі і даследавання журналістаў і пісьменнікаў. Упэўнены, што гэтым можна зрабіць шмат у справе далучэння людзей да беларускай мовы і, што там казаць, яе адраджэння.

Мне 26 год. Многія з маіх знаёмых—аднагодкаў і трохі старэйшых—з павагай стаўяцца да роднай гісторыі і мовы. Між сабой мы часам размаўляем, як мы кажам, «на мове». Але гэта бывае рэдка. Бо гаварыць па-беларуску проста няма з кім. І калі на цябе здзіўлена азіраюцца людзі, пачуўшы ўрывак гаворкі, то міжволі адчуваеш сябе трохі «белай варонай». Вельмі тужліва становіцца ад гэтага. Ніякая іншая мова—ні замежная, ні любога з народаў СССР—не выклікае гэткіх да сябе адносін, тым больш з боку людзей, для якіх гэта мова з'яўляецца роднай.

Неяк, знаходзячыся ў камандзіроўцы ў Віцебску, мне давялося пазнаёміцца з маладым хлопцам з Украіны. І вось між іншым зайшла гаворка пра мову, пра гісторыю Беларусі і Украіны. Спачатку жартам, а потым і сур'ёзна, пачалі гаварыць: ён па-ўкраінску, а я — па-беларуску. Я са здзіўленнем заўважыў непадробную цікавасць гэтага хлопца да нашай мовы. Як высветлілася, ён дагэтуль ніколі не чуў беларускай гаворкі, для яго яна стала сапраўдным адкрыццём. Упершыню я адчуў сябе прадстаўніком народа беларускага, тады калі на развітанне ён сказаў: «Мне вельмі спадабалася твая мова». Гэта было і радасна і сумна. Сумна ад таго, што хлопец гэты два месяцы знаходзіўся ў Віцебску ў камандзіроўцы, а ўпершыню ад мяне пачуў жывое беларускае слова.

Яшчэ большае здзіўленне і роспач выклікала ў мяне сустрэча ў Брэсце. Калі быў там па справах, пазнаёміўся са студэнтамі-завочнікамі Брэсцкага педінстытута. Яны працавалі выкладчыкамі беларускай мовы і літаратуры ў розных раёнах Мінскай вобласці. Самім жа ім да дыплома заставаліся лічаныя месяцы. Пачаў гаварыць з імі па-беларуску і... разгубіўся. Людзі, якія вучаць мове дзяцей, з вялікай цяжкасцю вымаўлялі многія беларускія словы, а частку слоў наогул замянялі рускімі. У сваю чаргу, іх вельмі ўразіла маё веданне мовы (хоць я ведаю яе недасканала). А калі на іх пытанні я адказваў, што нарадзіўся і жыў у Мінску, што скончыў політэхнічны інстытут, дык здзіўленне іх нават немагчыма апісаць. Яны ніяк не маглі зразумець: як і навошта трэба ведаць беларускую мову чалавеку, якому гэта «совершенно не нужно»? Я спрачаўся і адказваў, што ніколі не задумваўся —трэба мне беларуская мова, ці не —проста мне хацелася яе ведаць, чытаць і гаварыць на ёй, і да таго ж—я беларус. Мяне не зразумелі... Сорамна і сумна. Гэтыя ж людзі выкладаюць родную мову беларускім дзецям. Вучні атрымліваюць першыя «ўрокі» абыякавасці і пагарды да роднай мовы ад уласных настаўнікаў... Балюча ўсведамляць такое, але гэта факт.

Р. СТАНКЕВІЧ,
эканаміст.

г. Мінск.

●

Гадоў сем назад на паліцах кнігарні ўбачыў упершыню беларускае факсімільнае выданне зборніка выбраных вершаў «Вянок» Максіма Багдановіча. Купіў з вялікай радасцю. Праз год яшчэ дзве такія ж кніжкі: «Жалейка» Янкі Купалы і «Песні жальбы» Якуба Коласа. Зусім нядаўна выйшла з друку таксама факсімільным выданнем кніжка яшчэ аднаго беларускага песняра— Алеся Гаруна «Матчын дар».

Усе кніжкі—сапраўдны дар кнігалюбам. Коштам яны не дарагія, з выразным шрыфтам, а галоўнае—дакладныя копіі пер

## Дзве ўзнагароды Ігара Лучанка

У друку паведамлялася ўжо, што за заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва народны артыст СССР І. Лучанок узнагароджаны ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі. На здымку, які зрабіў карэспандэнт БЕЛТА Я. Казюля, зафіксаваны ўрачысты момант, калі Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. С. Таразевіч уручае кампазітару ўзнагароду.

Другі здымак наш карэспандэнт Ул. Крук зрабіў у Генеральным консульстве Польскай Народнай Рэспублікі ў Мінску. За ўклад у арганізацыю і правядзенне першага Усесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску генеральны консул М. Абядзіньскі ўручыў І. Лучанку знак Міністэрства культуры і мастацтва ПНР «Заслужаны для польскай культуры».

## Віталі барда

Радаснаю была для віленскіх беларусаў з клуба «Сябрына» сустрэча з беларускім бардам Сержуком Сокалавым-Воюшам. Зала горача прымала ягоныя аўтарскія і народныя песні.

Першая ж песня «Беларусь мая» (музыка і словы С. Сокалава-Воюша) паланіла душы прысутных, закрануўшы самыя чулыя струны нашых сэрцаў. Ліліся пад гукі гітары блізкія, родныя мелодыі... Доўгімі воплескамі і кветкамі дзякавалі прысутныя беларусы і сябрылітоўцы спеваку за яго адметнае выступленне.

А. ЧЭМЕР.

г. Вільнюс.

## ЗАПРАШАЕ АКЦЯБРСКІ

Гарадскі пасёлак Акцябрскі Гомельскай вобласці стане цэнтрам правядзення ў нядзелю. 16 кастрычніка 1988 года, чарговага Рэспубліканскага свята паэзіі, прысвечанага 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Месца правядзення яго выбрана невыпадкова. Менавіта тут, у славутай Рудабелцы, ніколі не знімаўся чырвоны сцяг — нават у гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў існавала Савецкая ўлада.

Мяркуецца, што ў гэтым важным мерапрыемстве, якое праводзіць СП БССР сумесна з Акцябрскім райкомам партыі, прымуць удзел Н. Гілевіч, А. Вярцінскі, С. Грахоўскі, С. Законнікаў, В. Зуёнак, Г. Каржанеўская, П. Макаль, Я. Міклашэўскі, У. Паўлаў, Г. Пашкоў, Я. Сіпакоў, Я. Скрыган, Б. Спрынчан, М. Танк, іншыя вядомыя літаратары, госці з саюзных рэспублік.

Пра свята «ЛіМ» раскажа ў бліжэйшым нумары.

## ЛАЎРЭАТЫ НАЗВАНЫЯ

Рэдкая надарылася магчымасць — пачуць у адным канцэрце гучанне саліруючых валторны і трамбона, кранальны голас тубы, дыялог трубы і сімфанічнага аркестра... Гэта ігралі маладыя музыканты, лаўрэаты Усесаюзнага конкурсу выканаўцаў на медных духавых інструментах, які прайшоў у Мінску.

Перад іх заключным выступленнем у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылося ўрачыстае падвядзенне конкурсных вынікаў. Першымі прэміямі адзначаны валтарністы Г. Карпушкін і А. Бахолдзін, трубач Б. Шлепакоў, тубісты К. Гаранін і А. Капралаў (усе яны масквічы), трамбаністы М. Ігнацьеў (Ленінград) і А. Шаламко (Масква). Мінчане — І. Шамела (валторна) і В. Каўрэцкі (трамбон) сталі лаўрэатамі трэцяй прэміі, І. Цацоха (труба) атрымаў грамату журы.

Як заўсёды, для ўдзельнікаў конкурсу былі падрыхтаваны спецыяльныя прызы грамадскіх арганізацый. Граматамі журы ўзнагароджаны лепшыя канцэртмайстры, а таксама актыўныя ўдзельнікі арганізацыі конкурсу, сярод якіх педагогі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК.

Старшыня журы, галоўны ваенны дырыжор заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР генерал-маёр М. Міхайлаў, падкрэсліўшы значэнне музыкантаў-духавікоў у эстэтычным і патрыятычным выхаванні народа, не абмінуў і трывожных высноў наконт сённяшняга ўзроўню айчыннага музычнага мастацтва. Многае зроблена, гаварыў ён, але калі мы надалей не палепшым стаўленне да духавой музыкі, дык будзем таптацца на месцы, не выйдзем на сусветны ўзровень і не зможам давесці, што ў нас ёсць таленты і выдатныя майстры. Трэба дбаць пра тое, каб музыканты ў нашай краіне надзяляліся большай увагай, любоўю, — толькі тады мы ўзнімем жанр духавой музыкі на ўзровень патрабаванняў перабудовы, сённяшняга дня.

С. ВЕТКА.

шых выданняў твораў паэтаў. У маёй хатняй бібліятэцы факсімільныя выданні — на пачэсным месцы, побач з дзесяткамі кніг з аўтографамі пісьменніка. Перачытваю такія кнігі з хваляваннем — разгорнеш кнігу і чуеш дыханне гісторыі.

Уношу прапанову, каб выдавецтва «Мастацкая літаратура» прадоўжыла добрую справу, каб яно дарыла кнігалюбам хоць бы па адной факсімільнай кніжцы ў год.

**В. АРЦЕМ'ЕЎ,**
ветэран працы.

г. Магілёў.

●

Давольце падзяліцца ўражаннямі ад сустрэчы з ансамблем «Свята», якая адбылася ў нашым горадзе. Не раз чулі мы выступленне гэтага калектыву па радыё, бачылі ў тэлевізійных перадачах, таму з нецярпеннем чакалі сталічных артыстаў. І яны сапраўды падарылі нам свята — чыстае, светлае, запамінальнае.

Мелодыі Палесся, Гродзеншчыны, Віцебшчыны кранулі ўсіх прысутных, у захапленні былі гледачы ад майстэрства *музыкантаў, танцораў, спевакоў*. У зале знаходзіліся людзі розных узростаў, і кожны з іх па-свойму ўспрымаў праграму.

Наш калега заслужаны настаўнік БССР Станіслаў Рафаілавіч Шэмес зазначыў, што артысты вярнулі яго ў маладосць, калі і скрыпка, і цымбалы былі на кожным вясковым свяце, гучалі вясёлыя полькі і меладычныя вальсы.

А з якім задавальненнем пляскала ў ладкі і прытупвала ножкамі ў такт музыцы пяцігадовая дзяўчынка! Усіх гледачоў паяднала любоў да роднай песні, павага да шчырых выканаўцаў. І міжволі думалася: «Як добра, што ёсць у нас калектыў, які носіць беларускую назву «Свята» не дзеля назвы (што казаць, ёсць у нас і такія), а сваёй творчасцю апраўвае яе».

Хочацца сказаць і пра тое, што засмуціла. На жаль, у зале было нямала незанятых месц. Арганізатары канцэрта не паклапаціліся пра добрую рэкламу (палічылі, напэўна, што некалькі аб'яў дастаткова). Гэта здараецца не першы раз і, думаецца, не толькі ў Смаргоні. Шкада, што культработнікі часам забываюць прапагандаваць творчасць лепшых калектываў, а гэта ж іх непасрэдная справа. Здзівілі і афішы: каляровыя фатаграфіі ўдзельнікаў фальклорнага ансамбля ў нацыянальных касцюмах і... надпісы на рускай мове. Мабыць, для рэкламы калектыву ў іншых рэспубліках гэта было б да месца, але ж для гастроляў па Беларусі тэкст афішы павінен быць на роднай мове.

Выказваем яшчэ раз словы ўдзячнасці калектыву ансамбля «Свята».

Настаўнікі СШ № 4
г. Смаргоні
**Л. М. АЛЯШКЕВІЧ,**
**І. Н. ГАЕВА,**
**Л. Я. ГУРСКАЯ,**
**Т. Я. РОГАЧ,**
**Т. А. КАРНЕЙ,**
**Ю. А. ШЭМЕС.**

●

Лістоўка «Слонимский район», якая выйшла ў свет нядаўна, расказвае аб дасягненнях раёна ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і сацыяльна-культурным будаўніцтве. Кінуліся ў вочы такія радкі: «На нашей земле родились, жили и продолжают трудиться писатели и поэты Валентин Тавлай, Николай Орочко, Якуб Миско, Анатоль Иверс, Алесь Сучок, Елена Руцкая и другие». Прачытаў і не паверыў вачам сваім: хіба можна... «уваскрэсіць» нашых двух землякоў? Гэта ж трэба! Валянцін Таўлай, які памёр у 1947 годзе, «продолжает трудиться». Якуба Міско таксама, на жаль, няма сярод нас (памёр у 1981 годзе). Гэту элементарную недасведчанасць адказных за выданне работнікаў Слонімскага райвыканкома нельга пакінуць без увагі. Аб чым яна сведчыць? Аб тым, як у нашым горадзе і раёне ўшаноўваюць памяць пісьменнікаў-землякоў. Слонімшчына сапраўды з пакон вякоў славілася сваімі літаратурнымі талентамі. Гэта Міхаіл Гамаліцкі, браты Яўген і Уладзімір Хлябцэвічы, Кандрат Лейка, Гальяш Леўчык, Сяргей Дарожны, Ігнат Дварчанін, Валянцін Таўлай і многія іншыя. На жаль, памяць іх не ўвекавечана, можна сказаць. Толькі імя В. Таўлая нададзена... не, не вуліцы, а невялічкаму завулачку.

Ці не гэтая абыякавасць да носьбітаў нацыянальнай культуры і становіцца прычынай выхаду лістовак з падобным тэкстам?

**С. ЧЫГРЫН.**

г. Слонім.

●

Заўсёды, калі бываю ў Вільнюсе, наведваю могілкі на Росе. Роса — помнік гісторыі, своеасаблівы музей архітэктуры і скульптуры. Але не толькі гэта прыцягвае мяне сюды. Тут пахаваны і нашы землякі, ураджэнцы Беларусі, жыццё якіх было звязана з Літвой і яе сталіцай. Назаву некаторых: археолаг, заснавальнік Віленскага музея старажытнасцей Яўстафій Тышкевіч (1814—1873), паэты Уладзіслаў Сыракомля (1823—1862) і Ануфрый Петрашкевіч (1793—1863), празаік Ядвігін Ш. (1868—1922), пісьменніца і грамадская дзячка Эма Дмахоўская (1864—1919)...

Аб тым, што на Росе спачывае ўраджэнец Шчучына А. Петрашкевіч, дазнаўся я з даведніка «*Rasos*», які выйшаў у гэтым годзе ў Вільнюсе на літоўскай мове. Лічу, што трэба і нам падумаць аб выданні даведніка па старых вайсковых могілках г. Мінска, дзе пахаваны воіны і партызаны Вялікай Айчыннай вайны, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, рэвалюцыянеры, пісьменнікі, кампазітары, вучоныя... План могілак, які будзе ў даведніку з указаннем месц, дзе пахаваны знакамітыя людзі рэспублікі, неабходны і для мінчан, і для шматлікіх турыстаў, што наведваюць нашу сталіцу.

**А. ШОЦКІ,**
настаўнік.

г. Баранавічы.

## ВІНШУЕМ!

За заслугі ў развіцці беларускага савецкага музычнага мастацтва і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці кампазітару Валерыю ІВАНОВУ нададзена ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР.

## ПРАДСТАЎЛЯЕ «ЛИТЕРАТУРНАЯ УЧЕБА»

Пастаянным у літаратурна-крытычным і грамадска-палітычным часопісе СП СССР і ЦК ВЛКСМ «Литературная учеба» стаў раздзел «Дэбюты і разгляды», у якім прадстаўляюцца маладыя аўтары з саюзных рэспублік. На гэты раз такой увагі ўдастоены літаратары Беларусі: у чацвёртым нумары (перыядычнасць часопіса шэсць нумароў у год) змешчана падборка «Маладая беларуская проза і паэзія».

Надрукаваны апавяданні Х. Лялько, А. Глобуса, У. Арлова, У. Бутрамеева (у перакладзе В. Шчадрыной і аўтарскім узнаўленні па-руску). Гэтыя творы аналізуюць А. Сідарэвіч («Незнаёмае пакаленне?») і Л. Званарова («Немітуслівае *слова*»).

Паэтычная падборка прадстаўлена творамі А. Пісьмянкова, Г. Булыкі, Л. Галубовіча, Л. Дранько-Майсюка (пер. Ю. Кузняцова, В. Чубара, В. Элькіна, Ю. Кабанава і В. Казакевіча). Слова пра творчасць згаданых аўтараў гаворыць у артыкуле «Больш паэтаў добрых і розных» Т. Чабан.

Публікацыі папярэднічае ўступнае слова А. Адамовіча «Васьмідзесятнікі», які праводзіць паралель паміж творчасцю сённяшніх маладых і тымі, хто ўваходзіў у літаратуру ў шасцідзесятыя гады. У прыватнасці, ён піша: «Страціўшы веру ў аджыўшых, запэцканых хлуснёй і народнай крывёю ідалаў, шасцідзесятнікі на ўсё жыццё сталі служкамі аднойадзінай ісціны, каштоўнасці — праўды. Любой цаной праўды і толькі праўды. Той самай, якая, кажучы словамі Дастаеўскага, вышэй за ўсё». А. Адамовіч раіць сённяшнім маладым вучыцца «ў шасцідзесятнікаў — упартасці, цярпенню, нязломнай веры ў тое, што ўсё мінецца, толькі праўда застанецца!».

**С. ВІРЗОЎСКІ.**

## НА МОВАХ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК

Унікальнае выданне пабачыла свет на братняй Украіне: выдавецтва «Музычная Украіна» выпусціла кніжку Тараса Шаўчэнкі «Запавет» мініяцюрным фарматам — памер 62 на 78 міліметраў. Але нездарма кажуць, шта малы залатнік ды дарагі. У зборніку прадстаўлены славуты верш Кабзара «Запавет» («*Як памру я, пахавайце на Украіне мілай...*») у арыгінале, а таксама ў перакладзе на мовы ўсіх саюзных рэспублік.

Як вядома, па-беларуску «Запавет» перастварыў народны пясняр Янка Купала. Дарэчы, пераклад упершыню быў апублікаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» 16 сакавіка 1934 года. Гэты купалаўскі пераклад і ўвайшоў ў мініяцюрнае выданне.

У кніжцы змешчаны таксама ноты і ілюстрацыі.

**Е. ДРОМІН.**

*Ліст з рэдакцыі*

# Ці паспяшаўся «ЛіМ»?

«Курапаты—наш боль» — так называецца артыкул, які змешчаны ў газеце «Звязда» за 30 верасня і ў якім карэспандэнт газеты А. Мяснікоў паведамляе аб выніках работы ўрадавай камісіі, створанай пасля вядомай публікацыі ў «ЛіМе» з мэтай расследавання абставін расстрэлу людзей у лясным урочышчы Курапаты пад Мінскам. Па факту выяўлення масавых пахаванняў Пракурорам Беларускай ССР Г. С. Тарнаўскім узбуджана крымінальная справа (правільнае, прынцыповае рашэнне!), працуе следчая група Пракуратуры рэспублікі, і на пытанні журналіста адказваюць першы намеснік пракурора У. К. Кандрацьеў, начальнік следчай часткі Пракуратуры В. В. Собалеў, галоўны судова-медыцынскі эксперт Міністэрства аховы здароўя БССР С. С. Максімаў. У карэспандэнцыі называецца колькасць сведкаў, устаноўленых папярэднім следствам (іх ужо 229!), прыводзяцца паказанні некаторых з іх, паведамляецца пра вынікі даследавання судова-медыцынскай і крыміналістычнай экспертызы... Нібыта нішто не абвяргае, а наадварот, толькі пацвярджае факты і версію ў цэлым, выкладзеныя ў артыкуле З. Пазняка і Я. Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці». «Шмат даных, — дзеліцца ўражаннем А. Мяснікоў, — сумных, трагічных — у гэтым дакуменце (маецца на ўвазе «Заключэнне комплекснай судова-медыцынскай і крыміналістычнай экспертызы». — **рэд. «ЛіМа»**). І калі знаёмішся з імі, адольвае нейкі нясцерпны боль...» Няцяжка ўявіць той душэўны стан, пра які гаворыць журналіст. Даследаванне касцявых астанкаў — не з «лёгкіх» тэм.

На жаль, не абышлося ў артыкуле і без дысанансу, без спробы смуткаваць з агаворкамі, з аглядкай, стаць, калі перафразіраваць паэта, на горла ўласным болю і смутку. Пасля таго, як карэспандэнт пазнаёміўся з меркаваннем работнікаў Пракуратуры наконт заключэння спецыялістаў-археолагаў, што прымалі ўдзел у раскопках, ён паставіў пытанне (цытуем):

«А ці не паспяшалася са сваёй новай публікацыяй «Шумяць над магілай сосны» газета «Літаратура і мастацтва»? У нумары за 16 верасня яна паведаміла аб многіх тайнах следчай справы...»

— Так, паспяшалася, — пагадзіліся ў Пракуратуры БССР. — У адпаведнасці з артыкулам 141 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса БССР недапусціма абнародаванне даных папярэдняга следства. Гэта можа быць зроблена толькі з дазволу следчага ці пракурора і ў тым аб'ёме, у якім яны лічаць магчымым. З такой жа просьбай ні аўтар, ні рэдакцыя ў пракуратуру не звярталіся».

Вось так. З аднаго боку... і з другога боку. З аднаго боку, — нельга не пагадзіцца, не прызнаць, не смуткаваць, а — з другога... З аднаго боку — неабходнасць вяртання да праўды і справядлівасці, змагання за выкрыццё фактаў сталінскага беззаконня, а з другога — напамінак пра літару закона.

**Тут неабходна наступнае тлумачэнне. Пачнём з элементарнага, з тэрмінаў. Паспяшалася ці не паспяшалася газета? Як вядома (пра гэта пісалася ў рэдакцыйнай прадмове да названай публікацыі), выбарачная эксгумацыя магіл у Курапатах была закончана 15 ліпеня г. г. Потым навуковая справаздача аб раскопках і археалагічных даследаваннях, выкананых супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН БССР З. С. Пазняком, М. М. Крывальцэвічам і А. В. Іовам, была абмеркавана і зацверджана на пасяджэнні Аддзела археалогіі інстытута (яго поўная назва: Аддзел археалагічных даследаванняў зонаў новабудоўляў). Каб быць дакладнымі, мы звярнуліся днямі да загадчыка аддзела, доктара гістарычных навук, прафесара Г. В. Штыхава і спыталіся наконт даты і характару абмеркавання справаздачы групы археолагаў — удзельнікаў раскопак. «Навуковая справаздача З. Пазняка, М. Крывальцэвіча і А. Іова аб археалагічных раскопках (эксгумацыі) пахаванняў ва ўрочышчы Курапаты была разгледжана на *пашыраным* пасяджэнні аддзела 1 жніўня, пратакол нумар 14, — сказаў Георгій Васільевіч. — Была прынята адпаведная пастанова. У ёй мы далі высокую ацэнку працы нашых супрацоўнікаў — працы няпланавай, нялёгкай, як вы разумееце, не кожны мог удзельнічаць у ёй. У пастанове адзначана, што раскопкі: даследаванні пахаванняў выкананы на высокім навукова-метадычным узроўні, што вывады абгрунтаваны і зафіксаваны належным чынам у адпаведнай дакументацыі. Навуковая верагоднасць справаздачы, — дадаў Г. В. Штыхаў, — не выклікала ніякіх сумненняў. Яе аўтарам была выказана падзяка за выкананне грамадзянскага і прафесійнага абавязку. На пасяджэнні аддзела была таксама выказана прапанова, каб справаздача была надрукавана».**

Такім чынам, справаздача аб археалагічных даследаваннях магіл у Курапатах была разгледжана і зацверджана ва *ўстаноўленым парадку*, 1 жніўня (і тут жа, нагадаем, перададзена следству Пракуратуры). А артыкул «Шумяць над магілаю сосны», напісаны на падставе яе, быў надрукаваны ў газеце 16 верасня, г. зн. толькі праз паўтара месяца. Так што гаварыць пра паспешлівасць наўрад ці ёсць падстава. Нават з фармальнага пункту гледжання. Для нагляднасці можна, дарэчы, параўнаць з тымі тэрмінамі, якія вызначаюцца для правядзення папярэдняга следства артыкулам 140 таго ж Крымінальна-працэсуальнага кодэкса БССР. Там сказана: «Папярдняе следства па крымінальных справах павінна быць закончана не пазней чым у двухмесячны тэрмін... Тэрмін папярэдняга следства, устаноўлены часткай першай гэтага артыкула, можа быць прадоўжана пракурорам... але не больш чым на два месяцы». Інакш кажучы, следства (расследаванне, даследаванне, разгляд і г. д.) не могуць цягнуцца бясконца. Вырашаць эфектыўна — значыць вырашыць аператыўна, хутка.

Ну ды гэта фармальны, вонкавы бок справы. Газету ж і аўтара папракаюць у нечым больш істотным, у тым, што яны, маўляў, «паведамілі аб многіх тайнах следчай справы», «абнародавалі даныя *папярэдняга следства*». Якія «тайны», якія «даныя»? Як ужо толькі што гаварылася, артыкул «Шумяць над магілай сосны» напісаны самім удзельнікам археалагічных раскопак пахаванняў і напісаны на аснове матэрыялу, які, як мы бачылі, *разгледжаны і прыняты* ў Акадэміі навук у якасці навуковай працы, працы, на якую, заўважым, распаўсюджваецца аўтарскае права.

Словам, калі публікацыя рыхтавалася да друку, то ў рэдакцыі не ўзнікла думкі, што аўтар заходзіць за мяжу «закрытай зоны», выдае тайны крымінальнага следства (калі такія ёсць), і што трэба звяртацца па дазвол да следчага ці пракурора.

Нелагічнасць і неправамернасць папроку ў наш адрас пацвярджаецца і наступнай *акалічнасцю*. Праведзеныя па рашэнні ўрадавай камісіі з 6 па 15 ліпеня даследаванні ў Курапатах не далі, па сутнасці, нічога істотна новага ў параўнанні з вынікамі першых раскопак, зробленых крыху раней і стаўшых тэмай артыкула «Курапаты — дарога смерці». Але ж у адносінах да гэтай публікацыі ніхто не сказаў, што яна не была ўзгоднена з праваахоўнымі органамі, што ў ёй выдадзены нейкія тайны крымінальнага *характару* і г. д. Наадварот — па фактах, выкладзеных у артыкуле, пракурорам рэспублікі была ўзбуджана крымінальная справа і для яе расследавання створана следчая група. Выходзіць, на той раз газета не паспяшалася?

І яшчэ адна супярэчнасць бачыцца нам у артыкуле «Курапаты — наш боль». З аднаго боку — неўхваленне таго факта, што газета як быццам спяшаецца, а з другога — прызнанне, што ў дадзеным выпадку нельга без сведкаў, без *грамадскай думкі, без галоснасці*. «Пасля публікацыі ў «Известиях», — гаворыць карэспандэнту першы намеснік Пракурора БССР У. К. Кандрацьеў, — да нас пачалі паступаць пісьмы з-за межаў Беларусі. Думаю, што і пасля выступлення «Звязды» чытачы напішуць нам пра падзеі ў Курапатах».

Мы думаем гэтаксама. Чытачы пішуць нам, напішуць у «Звязду», напішуць у Пракуратуру. Бо гэта зусім не тая справа, калі бясстрасна ўзважваюцца гіркі на вагах Феміды, калі можна келейна падбіраць артыкул кодэкса ці ацэньваць сітуацыю з пункту гледжання працэсуальных нормаў. Бо гэта тая справа, імя якой «дзяржаўнае злачынства», «злачынства супраць народа», «масавыя рэпрэсіі» *і для* расследавання якой неабходны адкрытыя сведчанні, публічныя выступленні, патрэбен голас народа — у тым ліку і са старонак друку.

Мы таксама не лічым, што трэба спяшацца. Мы таксама за ўсебаковае даследаванне курапацкай трагедыі. Пра што гаварылі і ў час гутаркі са старшынёй урадавай камісіі Н. М. Мазай («ЛіМ» за 16 верасня г. г.). У нас таксама ёсць сумненні адносна сцвярджэння аб як быццам зробленай раней эксгумацыі ў Курапатах. Але мы... Тут мы даём слова яшчэ аднаму сведку. «Сёй-той, у тым ліку і асобныя журналісты, — піша ў рэдакцыю пісьменнік, падпалкоўнік юстыцыі ў адстаўцы В. Ф. Хомчанка, — *спрабуюць кінуць цень на* публікацыі ў «ЛіМе», чамусьці сумняваюцца наконт таго, што адбывалася ў Курапатах у канцы трыццатых, пачатку саракавых гадоў. А вось у мяне асабіста ніякіх сумненняў няма. Калі я сам сядзеў ва ўнутранай турме НКУС на Урыцкага, то ўжо тады ў яе сценах чуваць было гэтае слова «Курапаты». Нават час ад часу гучала злавесная пагроза ў адрас зняволеных: «Вось адвязём цябе ў Курапаты». Падобна, што менавіта туды і павезлі Янку Нёманскага, Юрку Лявоннага, Тодара Кляшторнага...»

# АСНОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

## па далейшаму развіццю народнай асветы ў Беларускай ССР

*(Зацверджаны Бюро ЦК КПБ 27 верасня 1988 г.)*

### I. УДАСКАНАЛЕННЕ СІСТЭМЫ КІРАВАННЯ НАРОДНАЙ АСВЕТАЙ

1. У адпаведнасці з рашэннямі XXVII з'езда партыі, лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС аб стварэнні сістэмы няспыннай адукацыі завяршыць фарміраванне новай структуры кіравання народнай асветай на рэспубліканскім, абласным, гарадскім і раённым узроўнях, якая ахоплівае ўсе звенні навучання і выхавання — дашкольныя і пазашкольныя ўстановы, агульнаадукацыйную і прафесіянальна-тэхнічную школу, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, сістэму павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў.

**1988 г.**
**Бюро ЦК Кампартыі Беларусі, абкомы, гаркомы, райкомы КПБ, Савет Міністраў БССР, Дзяржплан БССР, Міністэрства народнай асветы БССР, аблвыканкомы, Мінскі гарвыканком.**

2. Падрыхтаваць і ўнесці ў Савет Міністраў БССР праект палажэння аб Міністэрстве народнай асветы БССР, прадугледзеўшы ў якасці яго асноўных функцый прагназіраванне развіцця сярэдняй і вышэйшай школы, навукова-метадычнае і арганізацыйна-педагагічнае забеспячэнне іх дзейнасці, распаўсюджанне перадавога педагагічнага вопыту і наватарскіх ідэй.

**1988 г.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, ідэалагічны аддзел ЦК КПБ.**

3. Сфарміраваць у гарадах і раёнах дзяржаўна-грамадскія органы кіравання — саветы па народнай асвеце. Правесці на раённых (гарадскіх) канферэнцыях настаўнікаў выбары саставу саветаў. У кожнай вучэбна-выхаваўчай установе стварыць саветы з прадстаўнікоў педагагічных калектываў, вучняў, бацькоў, працоўных калектываў.

**1988 г.**
**Гарвыканкомы, райвыканкомы, Міністэрства народнай асветы БССР.**

4. Забяспечыць абмеркаванне з удзелам шырокай грамадскасці: праектаў нарматыўных актаў, якія вызначаюць прававое становішча сярэдніх агульнаадукацыйных школ, прафтэхвучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў; вучэбных планаў і праграм; своечасовае ажыццяўленне на практыцы палажэнняў гэтых дакументаў.

**1988—1989 гг.**
**Абкомы, гаркомы, райкомы КПБ. Міністэрства народнай асветы БССР.**

5. Унесці ў ЦК Кампартыі Беларусі і Савет Міністраў БССР прапановы аб змяненні і дапаўненні ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі раней прынятых дакументаў па агульнаадукацыйнай і прафесіянальна-тэхнічнай школе, перабудове вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

**1988—1990 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР.**

### II. НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЕ І АРГАНІЗАЦЫЙНА-ПЕДАГАГІЧНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ДЗЕЙНАСЦІ СЯРЭДНЯЙ І ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ РЭСПУБЛІКІ

6. Ажыццявіць меры па стварэнню і забеспячэнню эфектыўнага функцыяніравання сістэмы няспыннай адукацыі і выхавання, метадалагічнай і арганізацыйнай пераемнасці розных яе ступеней, узаемадзеянню ўсіх тыпаў навучальных устаноў, далейшай дэмакратызацыі народнай асветы.

**1988—1990 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР.**

7. Забяспечыць атрыманне ўсімі юнакамі і дзяўчатамі якаснай сярэдняй адукацыі. Фарміраваць у іх дыялектыка-матэрыялістычны светапогляд і высокія маральныя якасці, грамадска неабходны ўзровень працоўных навыкаў, культурнага развіцця і самастойнасці мыслення, патрэбнасць у пастаяннай самаадукацыі. У адпаведнасці з новай канцэпцыяй развіцця агульнаадукацыйнай школы ажыццявіць праграму абнаўлення зместу адукацыі, яе гуманітарнай і прыродазнаўча-навуковай складаючых, форм і метадаў навучання і выхавання.

**1988—1995 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР.**

8. Укараніць сістэму дыферэнцыраванага навучання школьнікаў. Адкрыць спецыялізаваныя школы і класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў, школы-інтэрнаты пры вышэйшых навучальных установах. Правесці апрабаванне вучэбных планаў і праграм дыферэнцыраванага навучання на базе школ Кастрычніцкага раёна г. Мінска і Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці.

Распрацаваць праграму далейшага ўдасканалення працоўнага выхавання моладзі на шырокай політэхнічнай аснове з выкарыстаннем вытворчай базы школ, міжшкольных вучэбна-вытворчых камбінатаў, прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў.

Карэнным чынам палепшыць эстэтычнае навучанне і выхаванне падрастаючага пакалення. Прадугледзець у навучальных планах агульнаадукацыйнай школы павелічэнне колькасці гадзін на вывучэнне эстэтычных дысцыплін. Да 1995 года мець музычныя школы ў кожным мікрараёне, на цэнтральных сядзібах калгасаў і саўгасаў. Да 2000 года павялічыць у тры разы колькасць дзіцячых мастацкіх, харэаграфічных школ і агульнаадукацыйных школ з паглыбленым вывучэннем прадметаў эстэтычнага цыкла.

**1988—2000 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржплан БССР, Акадэмія навук БССР, Міністэрства культуры БССР, творчыя саюзы, міністэрствы і ведамствы БССР.**

Завяршыць распрацоўку новага пакалення падручнікаў, забяспечыць іх выданне на высокім мастацкім і паліграфічным узроўні. Ажыццявіць серыю эксперыментаў па паралельнаму выкарыстанню настаўнікамі двух-трох падручнікаў, прызнаных па конкурсу лепшымі.

**1988—1992 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржкамвыд БССР.**

9. Прадоўжыць перавод дзяцей 6-гадовага ўзросту ў школы з улікам забяспечанасці іх вучнёўскімі месцамі, кадрамі настаўнікаў і выхавальнікаў, стварэння неабходных умоў для навучання і выхавання. Актыўна пашыраць вопыт арганізацыі навучальна - выхаваўчых устаноў «Школа — дзіцячы сад».

Вызначыць асноўныя напрамкі развіцця грамадскага дашкольнага выхавання. Адкрыць дашкольныя ўстановы з тэматычным ухілам. Удасканальваць праграмы дашкольных устаноў з беларускай і рускай мовай навучання. Выдаваць у неабходнай колькасці навучальна-наглядныя дапаможнікі і дыдактычныя матэрыялы.

**1989—1992 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, аблвыканкомы, Мінскі гарвыканком.**

10. Унесці ў Савет Міністраў БССР прапановы аб стварэнні дзяржаўнай сістэмы прафесіянальнай арыентацыі моладзі на базе разгалінаванай сеткі спецыялізаваных цэнтраў, укамплектаваных псіхолагамі, педагогамі, урачамі, спецыялістамі народнай гаспадаркі. Забяспечыць іх неабходнымі інфармацыйнымі матэрыяламі, дыягнастычнымі прыборамі і абсталяваннем. Арганізаваць падрыхтоўку і рэгулярнае павышэнне кваліфікацыі работнікаў гэтых цэнтраў.

**1988—1995 гг.**
**Дзяржкампрацы БССР, Міністэрства народнай асветы БССР, аблвыканкомы і Мінскі гарвыканком.**

11. Ажыццявіць паступовы перавод прафесіянальна-тэхнічнай школы рэспублікі на падрыхтоўку рабочых кадраў пераважна на базе сярэдняй адукацыі. Вызначыць прафтэхвучылішчы для сумяшчэння агульнаадукацыйнага і прафесіянальнага навучання моладзі.

Удакладніць перспектывы развіцця сеткі прафтэхвучылішчаў, структуру вывучаемых у іх спецыяльнасцей з тым, каб да 1995 года перайсці на падрыхтоўку рабочых у асноўным праз прафесіянальна-тэхнічную школу.

**1988—1992 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржкампрацы БССР, міністэрствы і ведамствы БССР.**

Арганізаваць у прафтэхвучылішчах у час вытворчага навучання навучэнцаў выпуск карыснай прадукцыі шырокай наменклатуры і павышанай складанасці, а таксама аказанне паслуг насельніцтву.

**1988—1990 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржснаб БССР.**

12. Завяршыць да 1990 года атэстацыю вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. У трынаццатай пяцігодцы прывесці іх сетку, структуру спецыяльнасцей у адпаведнасці з рэальнымі патрэбнасцямі ў кадрах у галіновым і тэрытарыяльным разрэзах.

Упарадкаваць падрыхтоўку спецыялістаў вышэйшага і сярэдняга звяна праз вячэрнюю і завочную формы навучання, шырока выкарыстоўваць экстэрнат і паскораныя формы падрыхтоўкі ў ВНУ асоб, якія маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю, а ў тэхнікумах — прафесіянальна-тэхнічную.

**1988—1990 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржплан БССР, міністэрствы і ведамствы БССР, аблвыканкомы.**

Мэтанакіравана ажыццяўляць інтэграцыю вышэйшай школы з навукай і вытворчасцю. Расшырыць сетку і павысіць эфектыўнасць функцыяніравання філіялаў кафедр на прадпрыемствах і ў навуковых установах, лабараторый і цэнтраў двайнога падпарадкавання.

Да канца дванаццатай пяцігодкі стварыць трывалую аснову для супрацоўніцтва ВНУ з прадпрыемствамі і арганізацыямі па кожнай спецыяльнасці прыродазнаўча - навуковага, інжынерна-тэхнічнага і грамадска-гуманітарнага цыклаў.

**1988—1990 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, міністэрствы і ведамствы БССР, Акадэмія навук БССР.**

Ажыццявіць перабудову навучальнага працэсу ў вышэйшых навучальных установах, укараняць актыўныя метады прафесіянальнай, эканамічнай і гуманітарнай падрыхтоўкі спецыялістаў, іх экалагічнай адукацыі, эфектыўныя формы практыкі і самастойнай работы студэнтаў.

Забяспечыць шырокі ўдзел студэнтаў у выкананні навукова-даследчых, доследна-канструктарскіх работ на кафедрах у саставе навукова-вытворчых атрадаў, студэнцкіх канструктарскіх бюро і цэнтраў навукова-тэхнічнай творчасці моладзі.

**1988—1990 гг.**
**Рэктараты вышэйшых навучальных устаноў, ЦК ЛКСМБ, рэспубліканскі савет НТТМ і самадзейнай тэхнічнай творчасці.**

Істотна расшырыць удзел вучоных вышэйшай школы ў выкананні фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў, павысіць іх эфектыўнасць, у першую чаргу ў галіне інфарматыкі, вылічальнай тэхнікі, машынабудавання, аграпрамысловага комплексу і па гуманітарных праблемах. Павялічыць к 2000 году аб'ёмы гаспадарча-дагаворных навукова-даследчых работ у ВНУ да 100—120 млн. рублёў у год, доследна-канструктарскіх — да 25—30 млн. рублёў.

Перавесці навуковыя ўстановы, канструктарска-тэхналагічныя арганізацыі і эксперыментальна-доследныя прадпрыемствы на поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне.

**1988—1990 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржплан БССР, Мінфін БССР.**

13. Ажыццявіць да 1995 года камп'ютэрызацыю навучання ў адпаведнасці з нарматывамі ва ўсіх тыпах навучальных устаноў. Стварыць рэспубліканскі фонд навучальных праграм.

У 1988 годзе завяршыць распрацоўку і пачаць вытворчасць вучэбнага камп'ютэра. Падрыхтаваць і забяспечыць неабходныя тыражы прыкладных абучаючых праграм.

**1988—1995 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржплан БССР, міністэрствы і ведамствы БССР.**

14. У мэтах узмацнення фізічнага развіцця падрастаючага пакалення, умацавання яго здароўя распрацаваць рэспубліканскую праграму фізічнага выхавання навучэнцкай моладзі.

**1989 г.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Міністэрства аховы здароўя БССР, Дзяржкамспорт БССР, Белсаўпроф.**

15. Стварыць Беларускі навукова-даследчы інстытут народнай асветы на базе НДІ педагогікі, Беларускага філіяла УНДІ прафтэхадукацыі, навукова-даследчай лабараторыі па праблемах вышэйшай асветы.

Унесці ва ўстаноўленым парадку прапановы аб адкрыцці ў ВНУ рэспублікі навуковых лабараторый па праблемах народнай асветы і аб устанаўленні Дзяржаўнай прэміі БССР за высокія дасягненні ў галіне педагагічнай працы.

**1988—1989 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР, Дзяржплан БССР, Мінфін БССР.**

### III. ДАЛЕЙШАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКА-РУСКАЙ ДВУХМОЎНАСЦІ, УЗМАЦНЕННЕ ПАТРЫЯТЫЧНАГА І ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫХАВАННЯ

16. Глыбока і ўсебакова прааналізаваць у абласцях, гарадах і раёнах, працоўных калектывах, навучальных установах стан культуры міжнацыянальных сувязей, інтэрнацыянальнага і патрыятычнага выхавання насельніцтва ў святле ўстановак XXVII з'езда КПСС, XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі. Забяспечваць мэтанакіраванае і паслядоўнае ажыццяўленне прынцыпу беларуска-рускай двухмоўнасці ад дзіцячых дашкольных устаноў да вышэйшых навучальных устаноў, зыходзячы з таго, што ў пытанні аб мове навучання недапушчальны ніякія прывілеі, абмежаванні або прымусы. Дабівацца, каб кожны жыхар рэспублікі добра ведаў беларускую і рускую мову, валодаў ёю. Распрацаваць і ўнесці на разгляд у ЦК Кампартыі Беларусі і Савет Міністраў БССР доўгатэрміновую рэспубліканскую праграму «Родная мова», якая прадугледжвала б комплекс мер па арганізацыйнаму, матэрыяльнаму, кадраваму, навукова-метадычнаму забеспячэнню расшырэння сферы прымянення беларускай мовы.

**1988—1989 гг.**
**Абкомы, гаркомы, райкомы КПБ, Белсаўпроф, ЦК ЛКСМБ, Міністэрства народнай асветы БССР, Акадэмія навук БССР, творчыя саюзы, Дзяржкамвыд БССР, выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, ідэалагічны аддзел ЦК КПБ.**

17. Увесці вывучэнне беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучання пачынаючы з другога класа, забяспечыць педагагічны працэс неабходнымі навучальнымі і метадычнымі дапаможнікамі, тэхнічнымі сродкамі.

**1988—1992 гг.**
**Міністэрства народнай асветы БССР.**

Увесці выкладанне большасці дысцыплін навучальнага плана на аддзяленнях беларускай мовы і літаратуры філалагічных факультэтаў на беларускай мове. Павялічыць колькасць гадзін па беларускай мове на ўсіх факультэтах пэдінстытутаў і педагагічных аддзяленнях універсітэтаў. Забяспечыць да 1992 года ўсе школы высокакваліфікаванымі настаўнікамі - прадметнікамі.

Расшырыць падрыхтоўку праз аспірантуру спецыялістаў па методыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры.

Адкрыць у 1988/89 навучальным годзе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна вячэрняе аддзяленне па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура».

Задаволіць патрэбнасць настаўнікаў беларускай мовы ў навучальна-метадычнай літаратуры. Павялічыць выпуск кніг серыі «Школьная бібліятэка», выдаць школьны краязнаўчы атлас «Беларуская ССР», дапаможнікі для факультатыўных заняткаў па беларускай літаратуры.

Прааналізаваць практыку чытання курсаў па беларускай мове і літаратуры, гісторыі БССР і СССР, падбору аспірантаў на адпаведныя кафедры ва універсітэтах і педагагічных ВНУ, ажыццявіць меры па далейшаму ўдасканаленню гэтай работы.

Пераглядзець навучальную праграму па гісторыі СССР з

(Працяг на стар. 14—15).

## Кнігапіс




Г. АБУХОВІЧ. Паўвека на сцэне. Літаратурны запіс Т. Мушынскай. На рускай мове. Мінск, «Беларусь», 1987.

**Сёлета народнай артыстцы БССР Ганне Абуховіч споўнілася б восемдзесят... Доўгім, яркім было яе сцэнічнае жыццё. Асабліва поўна талент Г. Абуховіч раскрыўся на сцэне Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР імя Горкага. Пачынаючы з 1937 года, на падмостках яго яна стварыла шэраг значных вобразаў, сярод якіх Васа Жалязнова (аднайменная п'еса М. Горкага), матухна Кураж («Матухна Кураж і яе дзеці» Б. Брэхта), Надзея Манахава («Варвары» М. Горкага) і многія іншыя.**

**У кнізе «Паўвека на сцэне» Г. Абуховіч успамінае свой творчы шлях, адначасова згадвае многіх сваіх паплечнікаў па сцэне. Мемуары гэтыя ў пэўнай ступені і гісторыя горкаўскага тэатра, пададзеная праз успрыманне аднаго з самых значных яго творцаў.**




Я. ЯНІШЧЫЦ. У шуме жытняга святла. Вершы, паэмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Старонкі выбранай паэзіі Яўгеніі Янішчыц — яшчэ адна магчымасць перагарнуць яе ранейшыя зборнікі «Снежныя граніцы», «На беразе пляча», «Каліна зімы» і іншыя. Багаты ўнутраны свет лірычнай гераіні паэтэсы вабіць сваёй шматстайнасцю, далучанасцю да паўсядзённых спраў народа. Пра што б ні пісала Я. Янішчыц, яна дасягае суладнасці думкі і пачуцця. Яе лірыка светлая, шчырая, з публіцыстычнай напоўненасцю. Кніга выбранага — свайго роду справаздача аўтара за дваццаць гадоў творчай працы.**




А. КАШТАНАЎ. Лепшыя гады. Аповесці, апавяданні. На рускай мове. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Вядомасць у чытача Арнольд Каштанаў набыў пасля таго, як выступіў на старонках часопіса «Новый мир» з аповесцю «Заводскі раён». У аднатомнік «Лепшыя гады» ўвайшлі аповесці «Карабейнікі», «Эпідэмія шчасця», апавяданні «Вакзал-аўтабаза», «Мой дождж», «Церам, церамок, хто ў цераме жыве». Як правіла, А. Каштанава цікавіць унутраны свет чалавека, звязанага з сучаснай прамысловай вытворчасцю, не абмінае ён і маральна-этычных праблем.**

**Рэдкае выданне не аддае цяпер свае старонкі апавяданням пра людзей, чый лёс бязлітасна зламала або, у лепшым выпадку, жорстка скалечыла вар'яцкая хваля суровых сталінскіх рэпрэсій. Тысячам «ворагаў народа», «шпіёнам» і «контррэвалюцыянерам» вернуты сёння іх добрыя імёны. Вельмі многія з бязвінна асуджаных да арышту былі камуністамі, нярэдка ўзначальвалі партыйныя камітэты і арганізацыі. І кожнага з іх спешна, як правіла, яшчэ да скорага суда і прыгавору, таварышы па партыі выключалі са сваіх радоў усё за той жа «шпіянаж», «падрыўную дзейнасць» або «сувязь з чужымі элементамі».**

**Натуральнае пытанне: а як ацэньваецца сёння віна перад партыяй тых, хто ўжо рэабілітаваны судом? Хто і дзе пераглядае персанальную справу рэпрэсіраваных камуністаў? Якую ролю адыгрывае гэта няпростая работа ў абнаўленні грамадскага жыцця, ва ўсталяванні гістарычнай праўды і справядлівасці?**

**З гэтымі і іншымі пытаннямі карэспандэнт БЕЛТА звярнуўся да старшыні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК КПБ В. Ц. ГАЛАВАНА. Яму даручана таксама кіраваць створанай у чэрвені гэтага года камісіяй Бюро ЦК КПБ па дадатковым вывучэнні матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, якія мелі месца ў перыяд культу асобы Сталіна.**

**У яе склад увайшлі член Бюро ЦК КПБ, старшыня КДБ БССР В. Г. Балуеў, старшыня Рэвізійнай камісіі КПБ І. Ф. Якушаў, кандыдат у члены ЦК КПБ, дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Р. П. Платонаў, член Рэвізійнай камісіі КПБ, старшыня Вярхоўнага суда БССР А. А. Здановіч, пракурор рэспублікі Г. С. Тарнаўскі, намеснік старшыні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК КПБ В. І. Гнядзько, загадчык сектара аддзела арганізацыйна-партыйнай работы ЦК КПБ В. М. Чайко.**

# «У партыі аднавіць...»

— Галоўная мэта нашай камісіі — усебаковае вывучэнне дакументаў і матэрыялаў, што адносяцца да партыйнай рэабілітацыі асоб, якія сталі ахвярамі беззаконнасці і самавольства, — гаворыць В. Ц. Галаван. — Яна можа прыцягваць да ўдзелу ў даследаваннях, у вывучэнні той ці іншай складанай праблемы навуковыя калектывы або асобных найбольш кваліфікаваных спецыялістаў, запрошваць дадзеныя з усіх архіваў рэспублікі і краіны, у выпадку неабходнасці даручаць правядзенне дадатковага расследавання органамі суда, пракуратуры, дзяржбяспекі. Камісія працуе ў дзелавым кантакце з абкомамі, гаркомамі і райкомамі партыі, з удзячнасцю прымае дапамогу грамадскасці.

**— Не маглі б вы, Васіль Цімафеевіч, пацвердзіць гэту характарыстыку паўнамоцтваў камісіі канкрэтным прыкладам?**

— Гэта няцяжка. Але спачатку павінен агаварыцца, што партыйная рэабілітацыя бязвінна асуджаных пачата ў рэспубліцы яшчэ да стварэння спецыяльнай камісіі. Паралельна з іншымі справамі гэту работу па даручэнні ЦК КПБ вяла Камісія партыйнага кантролю пры ЦК КПБ. Цяпер створана асобнае фарміраванне, якое можа сканцэнтраваць сваю ўвагу толькі на гэтай злабадзённай праблеме і, натуральна, з большай паўнатой выкарыстаць свае магчымасці.

У якасці канкрэтнага прыкладу можна пазнаёміцца з матэрыяламі, на аснове якіх аднаўлен у партыі З. Х. Жылуновіч (Цішка Гартны) — вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч, старшыня першага Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі, акадэмік АН БССР, вядомы пісьменнік.

Камісіяй сабрана многа дакументаў, якія паслядоўна, год за годам раскрываюць багатую, але цяжкую і далёка не адназначную біяграфію Зміцера Хведаравіча Жылуновіча. Вось сведчанні першых гадоў жыцця — нарадзіўся ў Капылі, у сям'і беззямельнага селяніна. Хлапчуком пачаў батрачыць, працаваў на гарбарным заводзе. У 1904 годзе ўступіў у мясцовую арганізацыю РСДРП, актыўна ўдзельнічаў у яе дзейнасці — вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян, распаўсюджваў літаратуру, кіраваў палітычным гуртком гарбароў. Затым у пошуках заробку абхадзіў усю Беларусь, Украіну, Латвію, Літву, працаваў у Мінску, Магілёве, Палтаве, Рызе, іншых гарадах. У пачатку 1913 года, калі яму было ўжо 26 гадоў, уладкаваўся ў Пецярбурзе на завод «Вулкан» — гэта пацвярджае даведка з Ленінградскага дзяржаўнага гістарычнага архіва аб залічэнні «селяніна Мінскай губерні вучнем фрэзероўшчыка». Актыўна ўдзельнічаў у падтрымцы газеты «Правда», друкаваўся на яе старонках. Некаторы час прымыкаў да «міжраёнцаў», затым уключыўся ў беларускі нацыянальна-вызваленчы рух, стаў адным з лідэраў яго левай рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні. На свае сродкі пачаў выдаваць газету «Дзянніца», са старонак якой гучала перакананне, што свабоднае развіццё беларускага народа магчыма толькі ў цесным саюзе з рускім народам, у адзінстве з агульнарасійскай дэмакратыяй.

У сакавіку 1917 года З. Жылуновіч уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду — дробнабуржуазную нацыянальную партыю, якая стаяла на рэфармісцка-згодніцкіх пазіцыях і падтрымлівала Часовы ўрад. Ён прадстаўляў у ёй рэвалюцыйнае крыло, актыўна змагаўся з буржуазна-нацыяналістычнымі тэндэнцыямі, што ў немалой ступені садзейнічала расколу гэтай арганізацыі. Аб сваёй пазіцыі Зміцер Хведаравіч пазней гаварыў: «У мяне было поўнае спачуванне бальшавікам, але я не дайшоў да такой свядомасці, каб падзяляць у той час праграму і задачы кампартыі». У Кастрычніцкай рэвалюцыі непасрэднага ўдзелу ён не прымаў.

Паслякастрычніцкія дакументы раскрываюць адзін з самых адказных перыядаў у гісторыі нашай рэспублікі — набыцця ёю сваёй дзяржаўнасці, стварэння Камуністычнай партыі Беларусі. З. Жылуновічу было суджана аказацца ў эпіцэнтры важнейшых па значэнні і выніках падзей. Рэспубліканскія газеты нядаўна падрабязна расказвалі аб гэтым перыядзе, паўтарацца не будзем. Скажам толькі, што ўклад З. Жылуновіча ў падрыхтоўку дзяржаўнай будовы БССР, стварэнне Кампартыі Беларусі цяжка пераацаніць. Яму было даверана ўзначаліць Часовы рабоча-сялянскі ўрад, створаны пасля завяршэння VI Паўночна-заходняй канферэнцыі ў Смаленску, якая аб'явіла сябе першым з'ездам КП(б)Б. Ён нямала зрабіў усяго за месяц свайго існавання: ажыццявіў упэўненыя крокі для фарміравання цэнтральных рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, правёў выбары павятовых і валасных паветаў, павятовыя і губернскі з'езд Саветаў на тэрыторыі Мінскай губерні. У заслугу ўраду можна паставіць і той факт, што ён аператыўна падрыхтаваў і склікаў першы Усебеларускі з'езд Саветаў, перадаўшы яму ўсе паўнамоцтвы.

Як вядома, на з'ездзе ў Смаленску было выбрана Цэнтральнае бюро КП(б)Б, у якое ад беларускіх камуністычных секцый увайшлі З. Жылуновіч і І. Лагун. Зміцер Хведаравіч прапанаваў расшырыць прадстаўніцтва секцый у бюро, але з ім не згадзіліся.

Пазней гэта пазіцыя З. Жылуновіча будзе расцэнена як варожая, нацыяналістычная, як імкненне стварыць урад, які не падпарадкоўваўся б ВЦВК.

**— Васіль Цімафеевіч, камісія дасканала вывучыла ўсе дакументы, звязаныя з дзяржаўнай і творчай дзейнасцю З. Жылуновіча. У чым яшчэ ён абвінавачваўся?**

— Пачнём з самага цяжкага абвінавачання. У лістападзе 1936 года ён быў арыштаваны як актыўны ўдзельнік контррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі, якая, нібыта, дзейнічала ў Мінску. Пасля жорсткіх допытаў і вымушаных прызнанняў цяжка захварэў і праз пяць месяцаў памёр у магілёўскай бальніцы.

У канцы мінулага года Пракуратура БССР пасля ўсебаковай і старannай праверкі спыніла крымінальную справу З. Жылуновіча «за адсутнасцю ў яго дзеяннях саставу злачынства». Матэрыялаў, якія пацвярджаюць існаванне ў Мінску контррэвалюцыйнай арганізацыі, знойдзена не было.

Што ж датычыць партыйных спагнанняў, то, трэба сказаць, што выносіліся яны З. Жылуновічу неаднаразова. Так, у ліпені 1924 года праверачная камісія Наркамасветы БССР, дзе ён працаваў, у ходзе чысткі партыі выключыла яго з радоў КП(б)Б на адзін год «за адарванасць ад мас і абывацельскую пазіцыю». Па апеляцыі ў верасні таго ж года ў ЦКК РКП(б) ён быў адноўлены ў партыі, але атрымаў строгую вымову з папярэджаннем за невытрыманасць.

У лістападзе 1929 года камісія па праверцы і чыстцы саставу партыйнай ячэйкі таго ж Наркамасветы выключыла З. Жылуновіча з партыі «за сістэматычнае выказванне поглядаў, аб'ектыўна накіраваных супраць партыі і сацыялістычнага будаўніцтва, бюракратызм і адарванасць ад партыйнага жыцця». За гэтай фармулёўкай, калі ацэньваць яе з пазіцый сённяшняга дня, стаялі ў многім надуманыя абвінавачанні. Яму ставілася, напрыклад, у віну, што, вярнуўшыся з замежнай камандзіроўкі, ён іншы раз станоўча адзываўся аб арганізацыі гарадской гаспадаркі ў Рызе, Берліне, аб пастаноўцы выдавецкай справы ў Празе і гаварыў аб адсталасці яе ў Мінску, аб неабходнасці актыўней пераймаць лепшы вопыт.

Крамола бачылася і ў тым, што З. Жылуновіч стараўся папулярызаваць творы Я. Купалы, Я. Коласа і іншых аўтараў, творчасць якіх кваліфікавалася тады як найбольш нацыянал-дэмакратычная. У віну яму паставілі і наведванне вечароў, якія арганізоўваліся іншы раз у доме Я. Купалы або Я. Коласа. Гэтыя сустрэчы расцэньваліся як пасяджэнні палітычнага клуба, які адыграў «вялікую ролю ў справе групавання і выхавання беларускіх нацыянальных сіл».

У студзені 1931 года пастановай прэзідыума Цэнтральнай кантрольнай камісіі КП(б)Б З. Жылуновіч быў выключаны з партыі «за свядомае правядзенне нацыянал-апартуністычнай і нацыянал-дэмакратычнай лініі, за ўдзел у антыпартыйных групоўках, за сувязь з чужымі і варожымі справе пралетарыяту нацдэмаўскімі і фашысцкімі элементамі і як рупар варожых сіл, якога выкарыстоўвала ў сваіх мэтах нацдэмаўская контррэвалюцыя ў барацьбе з дыктатурай пралетарыяту».

**— Што і казаць, фармулёўкі жорсткія, калі не сказаць бязлітасныя. Чым гэта, на ваш погляд, можна растлумачыць?**

— У канцы 20-х пачатку 30-х гадоў абвастрылася барацьба з ідэалогіяй нацыянал-дэмакратызму, якая вызначалася як варожая Савецкай уладзе контррэвалюцыйная плынь. Падзеі мінулага трактаваліся абстрактна, нярэдка скажаўся, выпустошваўся іх класавы змест. Напрыклад, у 30-я гады ўсталёўвалася памылковая думка, што беларускі нацыянальна-вызваленчы рух па сваім класавым характары з'яўляўся буржуазна-нацыяналістычным, адмаўлялася наяўнасць у ім рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку. Таму ўсе яго ўдзельнікі аб'яўляліся нацыяналістамі. Такое абвінавачанне было выстаўлена і супраць З. Жылуновіча.

**— І што ж паказалі даследаванні дакументаў, аналіз творчасці Цішкі Гартнага?**

— Была ўстаноўлена неабгрунтаванасць многіх абвінавачанняў. Матэрыялы архіваў сведчаць, напрыклад, аб тым, што на ўсіх з'ездах беларускіх нацыянальных арганізацый, у тым ліку і з'ездах Беларускай сацыялістычнай грамады, З. Жылуновіч асуджаў контррэвалюцыйную дзейнасць буржуазных нацыяналістаў, змагаўся за адрыў ад іх левых элементаў і кансалідацыю іх на рэвалюцыйнай платформе, актыўна адстойваў праграму рэвалюцыйна-дэмакратычных пераўтварэнняў.

Грунтоўна вывучаны партыйныя дакументы паслякастрычніцкага перыяду. І тыя, што былі раней у распараджэнні беларускіх гісторыкаў, і атрыманыя цяпер з архіваў Масквы, Ленінграда. У іх няма негатыўных ацэнак дзейнасці З. Жылуновіча. На ўсіх з'ездах КП(б)Б яго погляды і практычная работа ацэньвалася ў цэлым станоўча. А ў справаздачным дакладзе ЦК КП(б)Б X з'езду партыі ў студзені 1927 года адзначалася, што творчасць Ц. Гартнага «з'яўляецца найбольш вытрыманай у сэнсе пралетарскай лініі». Яна адлюстравала «пралетарскі струмень у беларускім нацыянальным руху да Кастрычніцкай рэвалюцыі».

Разам з тым у яго дзейнасці, асабліва на першым этапе, у публікацыях 20-х гадоў праявіліся і слабыя бакі: неглыбокае веданне ленінскай тэарэтычнай спадчыны, адсутнасць пастаянных сувязей з рабочымі калектывамі, уплыў мінулага

(Заканчэнне на стар. 6).

# «У ПАРТЫІ АДНАВІЦЬ...»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

акружэння з Беларускай сацыялістычнай грамады. Адсюль і памылкі, недакладныя ацэнкі некаторых падзей і з'яў, няправільныя ўяўленні па асобных пытаннях нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Але, безумоўна, яны не давалі ніякіх падстаў аднесці яго да ліку свядомых ворагаў народа.

З аб'ектыўнымі вывадамі і ацэнкамі, зробленымі на аснове аналізу ўсіх дакументаў, камісія загадзя пазнаёміла членаў Бюро ЦК КПБ, якое аднадушна прыняло рашэнне аб партыйна-палітычнай рэабілітацыі З. Жылуновіча і аднаўленні яго ў партыі З кастрычніка 1918 года. Камітэт партыйнага кантролю пры ЦК КПСС зацвердзіў гэту пастанову.

**— Да пошуку ісціны ў даным выпадку, як мы пераканаліся, былі прыцягнуты вялікія навуковыя і творчыя сілы. А калі размова ідзе аб аднаўленні добрага імя радавога камуніста, простага працаўніка!**

— Падыход у членаў камісіі адзін: рашэнню павінен папярэднічаць глыбокі і ўсебаковы аналіз усіх дакументаў і фактаў. Безумоўна, іх аб'ём і складанасць розныя ў людзей розных біяграфій і лёсаў.

Прывяду такі прыклад. Мы разгледзелі нядаўна заяву жонкі М. С. Крыцкага — былога дырэктара сярэдняй школы ў Быхаве — аб яго партыйнай рэабілітацыі. Міканор Сцяпанавіч 24 снежня 1937 года быў арыштаваны па абвінавачанні ў шпіянажы. На наступны дзень бюро райкома выключыла яго з партыі як ворага народа, выкрытага органамі НКУС.

Па нашым даручэнні кампетэнтныя органы паўторна праверылі абгрунтаванасць абвінавачання і смяротнага прыгавору. Высветлілася, што па ўчотах органаў дзяржбяспекі кампраметуючага Крыцкага матэрыялу няма, у архіве МУС СССР даных аб яго прыналежнасці да агентуры буржуазнай Польшчы таксама няма. У заключэнні галоўнага ваеннага пракурора Беларускай ваеннай акругі гаворыцца, што Крыцкі быў асуджаны без дастатковых доказаў яго віны. Гэта пацвердзіў і Ваенны трыбунал БВА, які адмяніў прыгавор ад 20 студзеня 1938 года.

Вывучыўшы персанальную і крымінальную справы, а таксама матэрыялы аб яго рэабілітацыі, камісія выказалася за аднаўленне М. С. Крыцкага ў партыі. Для прыняцця канчатковага рашэння матэрыялы накіраваны Магілёўскаму абкому КПБ.

**— Вы сказалі, што справа пераглядалася па заяве жонкі. Ці заўсёды патрабуецца такі зварот у камісію!**

— Да нядаўняга часу мы разглядалі справы аб партыйнай рэабілітацыі толькі па просьбах і заявах. Цяпер па даручэнні ЦК КПБ работнікі архіва Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ падрыхтавалі дакументы на многіх рэпрэсіраваных у гады культу членаў партыі. Сярод іх і радавыя камуністы, і члены Бюро ЦК КПБ, сакратары абкомаў і райкомаў партыі, наркомы, старшыні аблвыканкомаў, кіраўнікі творчых саюзаў, вядомыя вучоныя. Работа чакаецца вялікая і для членаў камісіі, і для тых устаноў і ведамстваў, у якія нам давядзецца звяртацца.

І тут мне хацелася б выказаць шчырую падзяку многім таварышам, якія добраахвотна прапанавалі сваю дапамогу ў пошуку ісціны па разгледжаных ужо намі справах. Але мы разумеем, наколькі неабходна будзе падтрымка грамадскасці, — у першую чаргу ветэранаў партыі, сучаснікаў рэпрэсіраваных, а таксама вучоных, літаратараў, майстроў мастацтва — у будучыні і вельмі разлічваем на іх жывыя сведчанні, захаваныя дакументы, на іх высакароднасць і бескарыслівасць.

**— Не сакрэт, Васіль Цімафеевіч, што аб судовай рэабілітацыі большасці людзей, чые горкія лёсы вы цяпер вывучаеце, акрамя сваякоў, даведваліся, на жаль, нямногія людзі. Я маю на ўвазе працоўныя калектывы, у якіх яны працавалі, партыйныя арганізацыі... Ці не здараецца такое і цяпер, у эпоху публічнасці!**

— Думаю, не, не здараецца. Акрамя паведамлення родным, мы абавязкова паведамляем калектывам аб вяртанні добрага імя іх таварышаў па партыі. Рэкамендуем увесці гэта ў практыку работы абкомаў і райкомаў, якім таксама даручана разглядаць справы рэпрэсіраваных. Мы спадзяёмся, што ў партыйных арганізацыях знойдуць спосаб публічна, усенародна расказаць праўду аб бязвінна пацярпеўшым або аддаць належнае яго светлай памяці, каб гэта знайшло душэўны водгук у маладых людзей, умацавала іх веру ў перамогу справядлівасці.

Гутарку вёў
Я. ГАРЭЛІК.



Штрыхі да творчага партрэта
Валянціна БЛАКІТА

# ШАНУЙ ІМЯ СВАЁ

З ПАВАГАЙ да чалавека, з увагай да яго ўнутранага свету піша Валянцін Блакіт. Няцяжка заўважыць, што яго, як правіла, цікавіць чалавек, у жыцці якога наступае адказны, нават пераломны момант, калі ён ужо не можа жыць па-ранейшаму, калі ён задумваецца над пройдзеным шляхам, вышукваючы ў ім той паваротак, што некалі прымусіў яго збочыць. Менавіта ў гэты момант з'яўляецца адчуванне, што нешта зроблена не так, як трэба, менавіта ў такі момант у чалавека вырываецца з адчаем: «Эх, каб мог ведаць. як павернецца! Ды, шкада, не дадзена чалавеку ведаць, што будзе заўтра, паслязаўтра: праз тыдзень, праз месяц, праз год... Шкада, што жыццё трэба пісаць толькі ў адным варыянце, толькі ў адным экземпляры і, напісаўшы, ўжо нельга папраўіць ніводнай памылачкі, ніводнай памарачкі...»

Так разважае герой аповесці «Усмешка Фартуны» Андрэй Чарапіца—журналіст і паэт, які так і не здолеў дасягнуць значных вышынь у сваёй творчасці, і былы муж, якому «наставіла рогі» жонка. Аповесць напісана ў гумарыстычна-сатырычным плане. Дарэчы, і пачынаў В. Блакіт як гумарыст і сатырык, друкуючыся на старонках часопіса «Вожык», а потым выдаўшы ў яго «Бібліятэчцы...» сваю першую кніжку «Вынаходнік».

Пасля «сур'ёзная» проза «разлучыла» аўтара на нейкі час з гумарам і сатырай. Тым не менш гаворку пра творчасць В. Блакіта хочацца пачаць усё ж з гэтай аповесці, хоць некаторыя іншыя творы, да якіх яшчэ вернемся, напісаны раней. Па-першае, не такая пакуль што частая з'ява ў нашай літаратуры гумарыстычна-сатырычная аповесць, а, па-другое, ва «Усмешцы Фартуны» гаворка ідзе пра тыя праблемы, якія ў той ці іншай ступені закранаюцца аўтарам у яго іншых творах.

Да ўсяго В. Блакіт тут, як ні ў адным іншым сваім творы, паказаў сябе майстрам сюжэта. Ад пачатку (ён нечаканы, нават з элементамі дэтэктыва) да канца аповесць напісана захапляюча, інтрыгуюча. Разам з тым аўтарам не ўпушчаны чалавеказнаўчыя, даследчыцкія моманты. Пісьменнік задумваецца сам, і прымушае зрабіць гэта чытачоў, над вытокамі такой з'явы, як графаманія. Здавалася б, што тут можа прыцягваць грамадскую цікавасць? Ды як паглядзець на праблему. Па сутнасці ж, кожны графаман—чалавек са скалечаным лёсам.

Нічога благога не было, калі той самы Андрэй Чарапіца праяўляў у маленстве «незвычайныя здольнасці імправізаваць у рыфму». Бяда ў тым, што на шляху Андрэя сустрэліся дарослыя, якія, не могучы адрозніць звычайнага рыфмавання ад паэзіі, станавіліся ў позу настаўнікаў, давалі зялёную вуліцу няспелым радкам пачаткоўца. І вось ужо Андрэю хочацца друкавацца, яго не задавальняюць патрабавальныя адказы з абласной і рэспубліканскіх газет. Першы крок да маральнага падзення ён зрабіў тады, калі выдаў за свой артыкул вядомага публіцыста. Першы ды не апошні...

Зайшоўшы ў жыццёвы тупік, зразумеўшы, што наступіў нарэшце той момант, калі яму даецца апошняя магчымасць нешта перайначыць ва ўласнай біяграфіі,Андрэй з недаўменнем заўважае, што гэтыя гады прайшлі марна: «Усплыў ходкі газетны штамп-прыём: у ідэальных, як анёлы, герояў журналісты не прамінаюць спытаць: маўляў, як вы пражылі

# Да юбілею Ф. Скарыны

**Францыск Скарына — адзін з найбольш яркіх і значных прадстаўнікоў беларускай культуры эпохі Адраджэння. Уключэнне імя Ф. Скарыны ў каляндар міжнародных дат ЮНЕСКА сведчыць аб сусветным прызнанні яго культурна-гістарычных заслуг. Каардынацыйны савет пры прэзідыуме АН БССР прыняў «Скарынінскую праграму», у якой удзельнічаюць установы і арганізацыі Міністэрства культуры БССР.**

**Пачынаючь падрыхтоўку да юбілею славутага асветніка-гуманіста масавыя бібліятэкі. Складаюцца бібліяграфічныя спісы, картатэкі, рыхтуюцца выстаўкі літаратуры і кніжныя паліцы, прэм'еры новага рамана-эсэ Алега Лойкі «Францыск Скарына», наладжваецца інфармацыя чытачоў аб новых публікацыях.**

**Да 500-годдзя Францыска Скарыны падрыхтавана і выдадзена Дзяржаўнай бібліятэкай БССР імя У. І. Леніна, Рэспубліканскім таварыствам аматараў кнігі методыка-бібліяграфічны дапаможнік пад назвай «Скарынінскія чытанні». Ён змяшчае парады бібліятэкам і арганізацыям таварыства кнігалюбаў па правядзенні гутарак «З гісторыі пісьменнасці і кнігі», «Францыск Скарына — першадрукар, асветнік, гуманіст», «Мастакі Беларусі — Францыску Скарыне», «Беларуская кніга сёння», па арганізацыі літаратурных і тэматычных вечароў «Францыск Скарына і яго час», «Кнігі — гэта сябры бясстрасныя, але верныя».**

**У дапаможніку змешчаны спісы навейшай літаратуры пра Ф. Скарыну, пытанні да літаратурнай віктарыны, спіс беларускіх выданняў, удастоеных у 1968—1986 гг. дыплома імя Францыска Скарыны, тэматычны пералік кінафільмаў.**

**Мікалай РОЗУМ,
галоўны бібліёграф
Дзяржбібліятэкі БССР
імя У. І. Леніна.**

# У Кракаве, на магіле Алеся Гаруна

**Мала хто з нашых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя столькі адпакутаваў за родную зямлю, як Алесь Гарун, мала хто быў так адарваны ад яе амаль праз усё сваё свядомае жыццё. Цэлых дзесяць гадоў правёў ён у астрогах, на катарзе ды на пасяленні ў марознай Сібіры. А ў 1920 годзе памёр аж у далёкім Кракаве.**

**З цягам часу магіла Алеся Гаруна, забытая ўсімі, загубілася на кракаўскіх Ракавіцкіх могілках. І толькі нядаўна, некалькі гадоў таму назад, малады гісторык—асістэнт Кракаўскага універсітэта Алег Латышонак, беларус па паходжанні,—адшукаў яе. І тады па ініцыятыве бацькі і сына Латышонкаў—Юрыя (інжынера-будаўніка з Супраслі) і Алега разгарнулася работа па ўвекавечанні памяці Алеся Гаруна. З усёй адказнасцю і належным разуменнем важнасці справы ў яе ўключылася Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку (БГКТ). Трэба было перш за ўсё юрыдычна забяспечыць захаванне магілы, атрымаць дазвол на пабудову помніка, аб'явіць збор сродкаў для гэтай мэты. знайсці мастакоў, майстроў ды і сам матэрыял. А гатовы помнік перавезці амаль праз усю краіну.**

**Грошы збіраліся не толькі на Беласточчыне, але і на Захадзе. А вось мы, прадстаўнікі Савецкай Беларусі, засталіся ў баку, бо мы не маем юрыдычнага права пералічваць свае рублі на якія б там ні было мерапрыемствы за мяжой.**

**Самаахвярнымі намаганнямі энтузіястаў грошы былі сабраны. На Беласточчыне знайшлі вялікі валун, які мабыць, цэлыя тысячагоддзі спакойна чакаў там свайго прызначэння. З яго быў высечаны помнік, урачыстае адкрыццё якога было назначана на 24 верасня ў 11 гадзін. Пра набліжэнне гэтай падзеі некалькі разоў паведамляла беластоцкая «Ніва», каб усе прыхільнікі таленту песняра і людзі, па-сапраўднаму адданыя беларускай справе, маглі загадзя рыхтавацца да такой знамянальнай падзеі.**

**24-га верасня ў 2 гадзіны ночы з Беластока адправіўся ў Кракаў вялікі аўтобус з актывам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы і Бельску. Разам з імі ехалі прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак і я.**

**Калі мы прыбылі ў Кракаў, на могілках ужо чакала вялікая група людзей, у тым ліку з Гродна, а таксама перакладчыца беларускай літаратуры Вера Рыч з Лондана і нават беларус Міхал Лужынскі з далёкай Аўстраліі.**

**Амаль у 11 гадзін (на некалькі мінут мы ўсё ж такі спазніліся са сваім аўтобусам) старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі) адкрыў урачыстасць. Добра ён сказаў пра заслугі песняра, пра яго пакутлівы шлях ды яшчэ пра тое, што яго спадчына займае сёння належнае ёй месца ў гісторыі нашай літаратуры і культуры.**

**Потым прысутныя праслухалі канцэрт мастацкай самадзейнасці вучняў беларускіх ліцэяў, што дэкламавалі вершы Алеся Гаруна са зборніка «Матчын дар» і выканалі некалькі беларускіх песень. А праз нейкі час яны ўступілі месца тым, хто меў жаданне сказаць сваё слова пра Алеся Гаруна. Першым звярнуўся да прысутных Алег Латышонак, які нагадаў гісторыю пошукаў магілы і пабудовы помніка.**

**Наогул жа тут кожны, хто хацеў, сам дзяліўся сваімі думкамі, пачуццямі і ўражаннямі. Следам за Латышонкам выступіў я. Разам з паклонам ад беларускіх пісьменнікаў я прывёз туды жменьку мінскай зямлі. Пасля ўжо слова ўзялі Міхал Лужынскі з Аўстраліі і беларускі паэт з Беласточчыны Віктар Швед. І зноў пачалася мастацкая праграма. Тут жа Вера Рыч прачытала на англійскай мове верш «Хто сказаў...»**

**Словы шчырай падзякі арганізатарам урачыстасці выказалі беларускія савецкія пісьменнікі Васіль Зуёнак і Аляксей Пяткевіч. А Данута Бічэль-Загнетава звязала дзейнасць Алеся Гаруна з барацьбой яго папярэднікаў і прачытала свой верш, прысвечаны Кастусю Каліноўскаму.**

**Хаця ў вышэйшых навучальных установах ПНР навучальны год яшчэ не пачынаўся, але прысутнічалі там і студэнты.**

**Памяць Алеся Гаруна ўшанаваў усхваляваным словам**

*Проза*

Герман КІРЫЛАЎ



# Майская рунь

*апавяданне*

ДАРАШЧОНАК спусціў з плячэй мех і прысеў на яго. Пакуль перацягнуў з варыўні на соткі ўсю насенную бульбу, пачуў, як затахкала сэрца, задугала ў скронях. Шырока расхінуў куртку спартыўнага трыко, заплюшчыўшыся, падставіў твар і грудзіну пад ласку па-летняму цеплага сягоння сонца і шаўкавістыя, як дотыкі вярбовых каткоў, павевы ветрыку, у якіх яшчэ адзываўся халадок несагрэтай талай вады ў нізінцы.

І раптам уздрыгнуў, замёр на паўуздыху. Як бы самой істотай счуў знаёмы, загадкава-таемны, быццам голас жыцця ці смерці, покліч. Той самы, які ўпершыню гэтак жа неспадзявана засціг калісьці даўным-даўно, далёка-далёка, недзе на самым пачатку ягоных пачаткаў. Але так і прапаў неспазнаны, неразгаданы, патроху зусім забыўся, загубіўся ў турботным тлуме сталых гадоў. І от нечакана вярнуўся.

Здалося, што ён зноў апынуўся ў сваім дзяцінстве, на гары перад шырокім, вясновым разлівам рачулкі. Гэтак жа сквіргаталі недалёка шпакі, шчасна ўсхліпвала кнігаўка, а з глыбіні лесу, як з вечнасці, пасылала сваё глухаватае самотна-пытальнае «ку-ку» зязюля. Подыхі ветру хмялілі духам забраджэлай зямлі, сокам прабуджаных растkoў і пупышак, маладой, ядранай свежасцю вясны.

Як бы ў спадзяванні згледзець, падмеціць, што тое было, адкуль адклікнула, Дарашчонак расплюшчыў вочы, пахапліва зірнуў вакол сябе. І засаромеўся сваёй наіўнасці. Няўжо чакаў дзіва? Даўно ж ужо выйшаў з таго ўзросту.

Прыставіўшы стрэшкай далонь да лба, сумна паглядзеў перад сабой. На мокры, у купінах-барадаўках лужок, на голы, сівавата-карычневы хмызняк, на лес—цёмныя шаты сосен, паплямленыя там-сям светлай, празрыстай прозеленню бяроз, на сіняе неба ў кучматых аблачынках, на якое лезлі з-пад гарызонту, выцягваючыся доўгімі, жаўтлява-сівымі хвастамі, дымы недалёкага адсюль горада.

Усё было так, як толькі магло быць. Дарашчонку нават запахла хімкамбінатам, на якім працаваў. Цішыню раздзерлі «Калхіды», прагырчаўшы па шашы побач, а з таго канца вёскі заскавытала, завухкала музыка—Еўчын унук «урубіў» магнітафон.

Аднекуль з вуліцы данеслася сярдзітае «Н-нэ, каб цябе!» Гэта, канечне, гнаў каня Сашка. Зараз садзіць бульбу. Дарашчонак паволі, як раптоўна ацяжалелы, падняўся. Трэба было ісці пераймаць Сашку.

Пайшоў па ўзмежку, асцярожна ступаючы босымі, бяскроўна-белымі пасля чаравікаў нагамі па збуцвелай леташняй траве, праз якую порстка прабівалася бледна-зялёная маладая. Не хацелася глядзець на густое, вясёлае жыта на сотках. Зараз яно пойдзе ў зямлю, стане ўгнаеннем для бульбы.

У двары, каля нябачнага Дарашчонку ганка, загаманілі жанчыны. Высыпалі з хаты, убачыўшы ў вокны Сашку. Цешча запрасіла памагчы трох такіх жа, як сама, пенсіянерак-бабылак. Дарашчонак змог прыехаць толькі адзін, ні жонцы Валі, ні дачцэ, ні тым болей сыну-дзесяцікласніку не выпала. Ды і, прызнацца шчыра, наогул нячаста выпадала і яму, і ўсім. У Валі—гэта яна падбіла матку прадаць сваю хату, а купіць дзе-небудзь тут, паблізу гэтага горада, поўна іх скрозь, апусцелых, нежылых—у разліках усё выходзіла як не трэба лепей. Матка будзе пад бокам, калі што памагчы—сеў на аўтобус, а з цягам часу на свой «Жыгуль» і прыскочыў. Ім будзе куды выбрацца на прыроду з гарадскога шуму і курадыму. Якая цыбуліна,

— Што ж?—Цешча ледзь не ўподбег кінулася ў абмін бэзу і шыпшыны на голас.

Сашка прама з завулка пакіраваў на пожню пры цешчыных сотках, пабітую касмылямі чарнобылю і дзядоўніка. Раней гэта быў агарод гаспадыні суседняга двара, яна колькі гадоў назад таксама пайшла на вечны спачын. Сашка крочыў борзда, хоць ужо і па-старэчы цягнучы ногі ў шэрых кірзавых ботах. Перад ім валокся, дзеручы дзірван, плуг.

цы, відаць, у абносці дачкі ці нявесткі.—Халера іх, як усё роўна яны там галёшы на патэльні падсмажваюць.

Сашка вуглом сагнутай у локці рукі бацнуў Дарашчонка па жываце: маўляў, слухай,—міргнуў на жанчын.

— Чуў — працаўнікі прагрэсу? — ужо галасна, каб чулі ўсе, не то сур'ёзна, не то жартам гукнуў:—Што б сягоння рабілі без хіміі? І адзяець, і абуваець, і корміць.

бульбіна будуць свае. На чорта з той дачай вязацца. А як перавезлі летась пад канец жніўня цешчу на новае месца, дык ён наведаўся, можа, разоў пяць, Валя разы са тры, а дзеці добра калі разы па два. Яму не выйшла нават пад'ехаць узараць па зіму соткі. Спачатку была працяглая камандзіроўка, пасля гарэў план. Цешчу выручыў Сашка. Ен корміць бычкоў на ферме, яму дадзены калгасны конь развозіць корм. Гэта Сашкава прыдумка: замест гною пасеяць пад бульбу жыта. Сам і насення недзе дастаў, сам узараў, сам і пасеяў. Цешча, праўда, вохала, што «чарніла» за гэта перапіў ужо—дай божа.

Жанчыны—цешча і тры яе новыя сяброўкі, не сяброўкі, але шчырыя кампаньёнкі па старэчай адзіноце Юлька, Надзя і Паланея—паказаліся па гэты канец хаты, стоўпіліся каля лавачкі пад верандай за бэзавым, яшчэ наскрозь празрыстым кустом, абсыпаным зялёнымі хвосцікамі праклюнутых пупышак.

—Мікалаеўна! — клікнуў Сашка. Быў недзе ўжо блізка ў завулку, які вёў сюды. Купленая цешчай сяліба стаяла трохі воддаль вуліцы. Памерлая гадоў пяць назад яе колішняя ўладальніца Насця пасля вайны прыстасавала пад жытло выпадкова ўцалелы ад пажару свіронак, так і дажыла ў ім свае дні. Дзеці разляцеліся па гарадах.

Праз голы яшчэ таксама зараснік шыпшыны і маліннiку, які буяў па другі бок ад бэзу, праглянуўся цёмнабуры конь і неўзабаве Сашка—сярэдняга росту, сутулы, у цёмным, зацоганым пінжаку, заношанай шапцы.

— Га, Мікалаеўна!

— Хлеб ёсць?

Цешча як спяшалася да Сашкі, так і стала, быццам укапаная, з разгублена-недаўменнай усмешкай азірнулася на сваіх таварышак: смяецца з яе?

— Дык, Паўлавіч,—адказала весела,—проша ў хату, ёсцека і хлеб і да хлеба.

— Я не пра сябе. Орліка падкарміць. Падбіўся на гэтых сотках. Што ён там есць на ферме? Гэны гнілаж? Нясі сюды цэлую булку.

— Я мігам.—Цешча павалюхала назад у хату.

Сашка пусціў каня на пожню, лейцы прыкруціў за гуж, каб не цягаліся. Спраўжна рушыў да Дарашчонка, дастаючы з пінжака пачак «Прымы». На чырвоным, аж з сінаватым адценнем, азызлаватым твары стаяла хітравата-паблажлівая ўсмешка.

— Як яна, царыца хімія?—Сашка падышоў амаль усутыч, стаў прыкурваць.

— Дымім патроху.—Дарашчонак ніякавата зірнуў цераз плячо на хвасты дыму на гарызонце.

— Ды ўжо ж,—тут жа адазвалася на ягоныя словы каторая з жанчын, якія ўжо стаялі ў канцы азімага шнура; гэта была Надзя, прысадзістая, рыхлая целам, але яшчэ даволі рухавая.—Калі-небудзь проста не прадыхнуць.

— Устанеш, бывае, раніцай, аж на ваніты цягне, — зашапялявіла праз свае шчэрбіны Юлька, сухая, зморшчаная, не па гадах апраненая ў кофту з глыбокім выразам, з кароткім рукавом, у караткаватай спадніцы, відаць, у абносці дачкі ці нявесткі...

— А няго ж,—падала свой пявучы голас Паланея, поўная, з нездаровай чырванню ў твары, але яшчэ і цяпер з выяўнымі адзнакамі колішняй прыгажосці.—Ужо яна з нас аж цераз край прэ.

Паявілася з боханам магазіннага хлеба цешча.

— Во забагацелі! — пераняла яе Юлька іранічным позіркам.—Хлеб ядзём і людзі, і свінні, і куры, і каровы, а ўжо і коні.

Па тым, як Юлька гаварыла, Дарашчонак западозрыў: ці не глынула трохі вінца ў цешчы? Чуў пра яе: і сама п'е, і сын, і дачка горкія п'яніцы.

— Ад таго, што забагацелі?—хмыкнула Паланея.—Што разбыдлелі.

— Твая праўда,—сумна падтрымала яе Надзя.—Ужо цаны нічому не знаем. Хлеб і на стале, і пад сталом, і ў карыце, і на шуметніку.

— Ужо і замест гною хлеб.—Паланея выразна павяла вачамі на лапіну жытнёвай зеляніны.

Цешча спынілася, не дайшоўшы да Сашкі. Выглядала з боханам хлеба ў руцэ, як злоўленая з крадзеным. Як яна вохала, раячыся з Дарашчонкам, што рабіць: і бульба трэба, і жыта заворваць і шкода, і грэх, як на тое ж—зарадзіла такое слаўнае.

Сашка, канечне, зразумеў, аб што ходзіцца.

— Хлеб-хлеб!—передражніў задзірыста. А што б на гэтых сотках вырасла, каб не жыта? У нябожчыцы Насці зямля ўжо зусім спуставалася

## З паэтычнай пошты

Міхась КАЗАКОЎ



### З далёкіх і блізкіх дарог

●

Наплываюць успаміны далёкія:
Пранік вохкае, пранік пялёхкае;
За прыціхлым вячэрнім трактам
Не спыняе гаворку трактар;
Грае ў клубе нястомны гармонік,
І далонь, як птушка,
Трапеча ў далоні;
Жуpавы над стагамі курлычуць,
У дарогу збірацца клічуць.
...Наплываюць успаміны далёкія:
Быццам пранік
У скронях пялёхкае...

●

Лета ў Кіеў прыйшло нечакана
Для мяне.
Як прывабна яго краса!
Дагараюць белыя свечкі каштанаў,
А таполі скідаюць
Парашутны дэсант.
Уздыхае гудкамі
Дняпро-рабацяга,
Баржы з грузам
Трымае на дужых плячах.
Узыходзіць зара,
Палымнеючы сцягам,
Новы дзень нараджаецца
З сінню ў вачах.
Я стаю на Уладзімірскай горцы
І гляджу на знаёмыя
Рэчку, масты,
На дваіх закаханых
У соннай маторцы —
І здаецца, што ты,
Беларусь мая,
Ты
Прада мною раптоўна паўстала
Гэтай роднай ракой,
Пахам скошаных траў,
Што з табою ніколі
Разлук не бывала...
— Підэм, Міша, дадому, —
Таварыш сказаў
Украінскай пявучаю мовай.
Усміхнуўся:
— Дадому? Дадому — пара.
...Тут заўжды
Я сябе адчуваю, як дома:
Украіна —
Маёй Беларусі сястра.

### Бялград

Беаград — Белы град —
Помніць посвісты куль.
Я сустрэчы з ім рад,
Толькі смутак адкуль?
Дзень пагодны не міл,
Сум у сэрца плыве.
Тут, ля брацкіх магіл,
Памяць вечна жыве.
Боль аплаканых страт
Нас з табою радніць
І гучыць, як набат,
Быццам клятва, гучыць.
А паблізу бяроз —
Макаў ярніх зара,
У крышталіках рос
Іх сунвецці гараць.
Ты, як кроўны мой брат,
Я табой ганаруся.
Беаград — Белы град,
Быццам Белая Русь.

### Бярозы ў Фажына

Пансіён карабелаў,
Жоўты сонечны плёс.
Раптам збегла нясмела
З гор чародка бяроз
І застыла ў чаканні
У той ранішні час,
У чаканні
Спаткання,
Сустракаючы нас.
Іх убачыў — па целу
Шал гарачы прайшоў,
На душы пасвятлела,
Быццам трапіў дамоў.
І спяшаўся з табою
Не да шчодрых сталоў —
Прытуліўся шчакою
Да бялютніх ствалоў.

# Час майстроў

МІНСК — ГОРАД нетэатральны? Практыка сцэны, здаецца, сцвярджае іншае: ёсць цікавыя спектаклі — ёсць і дасведчаныя ўдзячныя гледачы. А калі ў двух тэатрах ідуць спектаклі паводле аднаго літаратурнага твора? І каля абодвух тэатраў натоўп людзей з адзінай просьбай пра лішні білецік?..

Так, наспеў, урэшце, час, калі мы пераканаліся, што «напісанае — застаецца», бо «рукапісы не гараць». Яны перажываюць час свайго напісання, цемрашальства крытыкаў латунскіх і арыманаў і робяцца здабыткамі вечнасці, кожнаму пакаленню нашчадкаў «прыносячы сюрпрызы».

Колькі чытачоў, столькі і ўяўленняў пра «Майстра і Маргарыту» М. Булгакава. Ну, а рэжысёры і аўтары інсцэніровак — таксама чытачы... Што ж тады прапануецца гледачам? Думаю, нам застаецца ўважліва ўглядзецца ў спектаклі, зразумець пазіцыі іх стваральнікаў і іх мастацкія аргументы. І калі яны пераканаюць нас, давядуць слушнасць інтэрпрэтатараў, калі хвалюючая тэатр ідэя твора будзе далікатна суаднесена з праблемамі і поглядамі нашых дзён ці яшчэ лепш — адвечнымі, тады можна разважаць пра сцэнічнае прачытанне шматпластавага класічнага твора.

Рускі тэатр меў рацыю і слушнасць, калі звярнуўся не проста да інсцэніроўкі рамана, а да п'есы-фантазіі А. Дударава паводле рамана. Вазьмуся настойваць, што гэты, такі спектакль мог узнікнуць толькі з п'есы Дударава. Усё булгакаўскае, што пакінуў аўтар па-за дужкамі драмы, засталося і па-за спектаклем...

Магчыма, камусьці з тэатралаў ужо сам факт вольнага (з дапісваннем тэксту) абыходжання з выдатным раманам падасца блюзнерствам. Што ж, зноў падкрэслю пазіцыю, уласна для мяне не дыскусійную, — тэатр мае права ставіць раман (як гэта з поспехам зрабілі мінскія лялечнікі), тэатр мае права ставіць і свае ўяўленні, свае разважанні пра раман, адносна тых ідэй і філасофска-гістарычных канцэпцый, што ў ім закладзены. Дарэчы, Дудараў нібыта падхоплівае кампазіцыйны ход, выкарыстаны самім Булгакавым. «Майстар і Маргарыта» — гэта таксама... раман — пераасэнсаванне ідэй і герояў Майстра-Ешуа, як, дарэчы, і раман пра самога Майстра.

Пастаноўка, канцэнтрацыя праблем у шырокім кантэксце быцця і ў аўтара п'есы, і ў пастаноўшчыкаў спектакля ўзнікла праз актыўнае з болем за мінулае і надзеяй на будучыню, асэнсаванне свайёй гісторыі. Якой бы яна ні была, але яна — наша. І ўзнікаюць пытанні, і шукаеш на іх адказаў. Хто з нашых прашчураў у недалёкім мінулым быў тым Майстрам, што сумленне, гонар, адданасць ідэі ставіў вышэй патрэбшчыны, кан'юнктуры, ці нават самога жыцця? А жыццё заўсёды было пад пагрозай гвалту з боку таталітарнай улады, хоць бы таму, што яно «пасмела» ўзнікнуць... А хто быў «майстрамі», з нядобрай волі якіх пакутавалі людзі, палалі рукапісы і прыходзіла ў стан застою чалавечая думка? Як пераадольваліся трагічныя супярэчнасці паміж сумленнем і залежнасцю ад дыктату улады?

Пытанні адвечныя і надзённыя. Разважанні над імі турбавалі не адных нас, не адных толькі людзей булгакаўскага часу. Яны былі, ёсць і будуць да тых часоў, пакуль будзе існаваць так званы чалавек грамадскі. І мастацкае іх асэнсаванне носіць гуманістычны характар. І колькі будзе існаваць тэатр, Майстры з ягонай сцэны будуць нам нагадваць пра сумленне і пра апанентаў сумлення — пасіўных і ваяўнічых.

У гэтым асноўная канцэпцыя і п'есы, і спектакля, які, паўтаруся, з'яўляецца вынікам працы калектыву аднадумцаў. Прынцыповая пазіцыя пастаноўшчыкаў — адысці ад надакучлівага сацыялагізавання, перавесці (а можа, вярнуць?) раман у рэчышча агульначалавечых праблем. Пашырыць, як Воланд, памеры маскоўскай кватэры, межы прасторы і часу. Агульначалавечыя, філасофскія матывы, замацаваныя мастацкім вопытам чалавецтва не адно толькі на біблейскіх старонках, суадносяцца з канкрэтным часам, з матэрыялізаванымі катэгорыямі сумлення, вернасці ідэі, здрады, прыстасаванства...

Вельмі дакладна, падрабязна выбудоўваецца-закладаецца філасофскі падмурак спектакля, яго асноўнай канцэпцыі. Амаль што ўся першая дзея прысвечана гісторыі Ешуа Га-Ноцры (У. Шэлестаў), Понція Пілата (Ю. Сідараў) і Юды (А. Якаўлеў). Акцёры дакладна існуюць у межах драматургавай і рэжысёрскай задумы. Амаль ніякіх паўтаноў, аголенасць акцэнтаў, трапнасць характарыстык. Ешуа — адкрытасць пазіцыі, вера ў добрых людзей, бязгрэшнасць ідэі, непахіснасць сумлення. Юда — паталагічнае крывадушша, прадажнасць, халуйства. Пракуратар Понцій Пілат (на мой погляд, адна з лепшых работ спектакля і акцёра за апошнія гады) — страшэнны ўнутраны разлад, трагічная залежнасць ад улады над сабою. І запозненае, але ўсё ж пакаянне праз пакаранне смерцю Юды. І галаўны боль на стагоддзі, і раскалыханае сумленне, і адчуванне асабістай трагічнай віны. А побач з імі — чалавек-машына, спраўны выканаўца крывавых загадаў Марк Крысабой (А. Брухацкі — абяцаючы дэбют на мінскай сцэне).

Знаёмая расстаноўка сіл. Паўтараецца з эпохі ў эпоху. Яна паўторыцца і на сцэне, але ўжо ў Маскве другога і трэцяга дзесяцігоддзяў нашага стагоддзя. Лініі Ешуа-Майстра, Юды-барона Майгеля, Понція Пілата-Стравінскага бы стрэлы рассякуць прастору спектакля.

Разгадваючы прыроду булгакаўскіх двайнікоў, на гэтыя ролі рэжысёр прызначаў адных акцёраў. Іншыя абставіны, якія патрабуюць унутранага напружання герояў, працы думкі і — выбару. А між гэтымі апагейнымі кропкамі, ці пунктамі каардынат у розныя эпохі існавала і існуе бязмерная колькасць іх «двайнікоў». Частка з іх — з размытымі часам ці змененымі абліччамі з'явіцца ў фантастычнай сцэне балю поўні (між іншым, не сказаць каб удала пастаўленай рэжысёрам), а некаторыя, як, напрыклад, Берліёз і Бяздомны ў маляўнічым выкананні А. Кашкера і А. Ждановіча, увойдуць і ў сюжэтную аснову спектакля.

***Дзве думкі пра спектакль Рускага тэатра «Майстры» М. Булгакава (п'еса-фантазія А. Дударава).***

# Цьмяная ўсмешка д'ябла

НЕЗВЫЧАЙНАСЦЬ гісторыі рамана «Майстар і Маргарыта» можа паспрачацца з фантастычнасцю яго зместу. Пачаты М. Булгакавым у дваццатыя гады, спалены, зноў напісаны ў трыццатыя, ён перажывае сёння новае нараджэнне. Перавыдаецца мільённымі тыражамі, паводле яго пішуцца араторыі, ствараюцца балеты, здымаюцца фільмы. Раман з'яўляецца адвечнаю спакусаю і для тэатральных рэжысёраў — насычанасць дыялога, яркасць характараў, сцэнічнасць аўтарскага мыслення і складанасць філасофскіх праблем, тагасветнасць, вядоўства вабяць і палохаюць адначасова. І ўсё ж пераадолець спакусу інсцэніраваць раман удаецца не ўсім, і ў ліку спакушаных апынуўся Рускі тэатр БССР імя М. Горкага, які паказаў гледачам прэм'еру спектакля паводле знакамітага рамана.

Пастаноўку гэтую чакалі з вялікай цікавасцю. З ёй звязвалі спадзяванні на поспех. Творчы тандэм драматурга А. Дударава і рэжысёра В. Маслюка даваў для таго падставы. Але... спектакль з'явіўся, а спадзяванні засталіся спадзяваннямі.

Галоўны пралік сцэнічнага твора, на мой погляд, звязаны з нейкаю дваістасцю «ўзаемаадносін» п'есы А. Дударава і яе літаратурнай першакрыніцы. З аднаго боку, тэатрам яго новая пастаноўка анансавалася менавіта як інсцэніроўка рамана. Імя М. Булгакава стаіць першым у афішы і праграмцы спектакля; тым самым нібыта заяўляецца вернасць аўтару. У той жа час жанр драматургіі вызначаецца як «п'еса-фантазія», а гэта ўжо дэкларацыя незалежнасці, паводле якой гледача (не баючыся рызыкі зменшыць яго колькасць), трэба запрашаць не на Булгакава, а на Дударава.

Гэта было б апраўдана тым больш, што жанравая і сэнсавая структура рамана падвяргалася ў п'есе-фантазіі не проста перапрактоўцы, а прынцыповым зменам, пачынаючы з назвы. Булгакаўскае «Майстар і Маргарыта», што падкрэслівае унікальнасць двух асоб і лёсаў, драматург замяніў на «Майстры» — пэўным чынам растыражыраваў, а тым самым і знівеліраваў адметнасць герояў.

Спрабуючы спрасціць дзеянне, А. Дудараў пайшоў па шляху схематызацыі сюжэтнай структуры рамана, не пашкадаваўшы пры гэтым яго жанравай поліфанічнасці. Замест сутыкнення сатыры, трагедыі, д'ябаліяды ён прапанаваў тэатру філасофскую драму. Правамернасць такога вырашэння не варта было б аспрэчваць, калі б драматург, мяняючы жанр, адпаведна пераасэнсаваў і характары герояў. Але гэтага зроблена не было, і ў спектаклі надараецца цікавы эксперымент: у стыхію філасофскай драмы з яе запавольненым рытмам і манатонным дзеяннем кінуты трагічныя (Ешуа, Маргарыта, Пілат) і буфонныя (Бянгальскі, Ліхадзееў, Бегемот) персанажы, якія адчуваюць сябе там, па-мойму, аднолькава няўтульна і разгублена. Пацмянелі жарты д'ябальскай світы, і сёння вельмі і вельмі надзённыя (згадаем хоць бы візіт у Таргсін — тагачасную «Бярозку», і разважанні пра тое, дзе ўзяць валюту савецкаму чалавеку). Сарамяжлівасць з'явілася ў іх манерах, знікла гарэзлівасць свавольстваў. Знізіўся трагічны напал сцэн у Ершалаіме... Магчыма, менавіта ў гэтай, недаведзенай да канца жанравай метамарфозе, трэба шукаць прычыну таго, што ў спектаклі, нягледзячы на сур'ёзнасць рэжысуры і дабротнасць акцёрскіх работ, усё ж мала сапраўдных удач. Адзіны характар, пераасэнсаваны ў п'есе, — гэта Воланд, які стаў цэнтральнай фігурай спектакля і галоўным рухавіком дзеяння. Але вернемся да кампазіцыйнай структуры. Справа ў тым, што жанравая поліфанічнасць рамана — не толькі адлюстраванне светаадчування аўтара, і вядома ж, зусім не фармальны прыём. Д'ябаліяда і трагічныя евангельскія сцэны выконваюць у рамане ролю сістэмы духоўных каардынатаў, у якой разгортваецца гісторыя Майстра і Маргарыты. Галоўныя героі існуюць між дзвюх крайніх праяў дабра і зла — вобразамі Ешуа і Воланда. Тры гэтыя лініі на працягу асноўных дзеянняў развіваюцца паралельна і сыходзяцца ў фінале, дзе гучыць фраза: «Трусасць — горшы з парокаў», дзе атрымлівае дараванне Понцій Пілат, дзе вобраз Майстра ўпершыню напрасткі супастаўляецца з вобразам Ешуа Га-Ноцры і вуснамі апошняга яму выносіцца прысуд: «не заслужыў святла...». Са шматгалосся тэм, ідэй, характараў М. Булгакаў выразна вылучае галоўную думку — не невуцтва, не паталагічнае здрадніцтва, а страх, менавіта страх — першакрыніца горшых злачынстваў чалавецтва.

З дапамогай фантастычных вобразаў пісьменнік разважае пра трагічную рэальнасць. Дух часу прасякае кнігу, ён выяўлены не столькі ў падзеях, колькі ў светаадчуванні персанажаў. Іх тэкст перасыпаны прызнаннямі ў пакутлівай боязі: «Вы хочаце мяне арыштаваць?» — пытае Маргарыта Азазелу, які загаварыў з ёй у Аляксандраўскім садзе; «А гэта нас арыштоўваць ідуць!» — абвяшчае Бегемот, пачуўшы крокі на лесвіцы; Майстар знікае са свайго склепа пасля начнога стуку ў акно... Знішчалася інтэлігенцыя, разбураліся вялікія храмы, знікала тысячагадовая культура, разрабаваныя сяляне, ашалеўшы з голаду, беглі да Масквы, а каля горада іх сустракалі войскі... Па радыё гучалі бадзёрыя маршы... Нашы веды пра гэты час яшчэ вельмі няпэўныя, але і яны дазваляюць зразумець, адкуль з'явіўся ў рамане парафраз слоў Апакаліпсіса, які праходзіць скрозь дзеянне: «пал, пал... великий город...»

Але аўтарскі фінал у п'есе-фантазіі А. Дударава немагчымы, як немагчыма само параўнанне вобразаў Майстра і Ешуа. У працэсе інсцэнізацыі быў дапушчаны прыём, які надзвычай сказіў ідэйную структуру першакрыніцы. Я маю на ўвазе з'яднанне і ўтварэнне аднаго персанажа з Майстра і Ешуа, Стравінскага і Пілата, Барона Майгеля і Юды на аснове фармальнага прымянення аднаго з пунктаў Вяданты — пра ланцуг сансары: шматразовым увасабленні душы ў цялесным абліччы. Майстар прадстае новым увасабленнем Ешуа, Стравінскі — Пілата і г. д. Так, трапляючы ў клініку Стравінскага, Майстар-Ешуа пазнае ў ім (прыгадвае!) Понція Пілата: «Скажыце, доктар, мы з Вамі *ніколі раней не сустракаліся?..* Я згадаў... Якраз такі ж твар мне ўяўляўся ў пракуратара Юдзеі...». У выніку гэткай «ідэнтыфікацыі» знішчалася ідэя пра неабходнасць адстойваць свае перакананні нават пакутаю на крыжы, што ўзнікала з паралелі вобразаў Ешуа, які пайшоў на смерць у імя ісціны, і Майстра, які намагаўся адмежавацца ад жыцця творчасцю і каханнем. Які не заслужыў святла...

Такім чынам, драматург сутыкнуўся з неабходнасцю сачынення новага фіналу і, адпаведна, — высоўвання новай ідэі і новага галоўнага героя. Гэтым героем быў абраны Воланд. Дзякуючы фантазійным рэмаркам А. Дударава, Воланд набыў светлую ўсмешку і публіцыстычны пафас, з якім не абмінуў абрынуцца на смірнага Ешуа, выкрываючы бяссілле і бескарыснасць дабра. У кульмінацыйнай сцэне п'есы, дзе вырашаецца лёс Майстра і Маргарыты, Воланд даволі доўга і зусім сур'ёзна разважае аб дабратворнасці місіі князя цемры і пра тое, што зло на зямлі — адзіная рэальнасць, на якую можна спадзявацца ўсур'ёз! І настаўляе Майстра перад яго

Размову пра быццё чалавека, пра дыялектыку зла і дабра працягне і ўвядзенне ў спектакль масавых сцэн, якія існуюць паводле знакамітага пушкінскага «народ безмолвствует». Натоўп, прыбраны ў шэра-зялёныя вопраткі, якія нагадваюць кашулі дома вар'ятаў, рухаецца, замірае, хвалюецца,— увасабляе супярэчлівы, дысгарманічны свет. Яго, народа, волаты — на дзідах. Яму, народу, часцей за ўсё наканавана маўчанне. Ён, народ, нараджае і майстроў, і юдаў, і пілатаў, і крысабоеў. Сярод народа ўжо гадуюцца новыя майстры і юды, якія чакаюць свайго часу. Але ў якія б чорныя часы народ не жыў, ён заўсёды цягнецца за майстрамі і пагарджае юдамі. Як, дарэчы, і сама гісторыя, што, расстаўляючы кропкі над «і», аддае належнае за подзвігі і кампрамісы. Гэтую выснову дакладна даводзіць выключна ўмоўная фігура Воланда ва ўразлівым, інтэлектуальна насычаным выкананні Р. Янкоўскага. Ён, пасланец вечнасці, робіцца суддзёй, што выносіць прысуд самой гісторыі. У рэшце рэшт заўсёды надыходзіць час, які вызваляе майстроў і карае юдаў. Час надыходзіць і забірае іх з сабою. З Воландам і ягонай світай пакідаюць Маскву Майстар і Маргарыта, адлятаючы не ў небыццё, а ў вечнасць...

Інтэлектуальная насычанасць спектакля — безумоўная. Больш таго: ён — прыклад канцэптуальнага тэатра. Выбудаванасць асноўнага лейтматыву, графічная стройнасць мізансцэн у спалучэнні з чорна-белай графічнасцю сцэнічнай канструкцыі (мастак В. Пераберын), аскетызм выканання. Гэтыя моманты зрабілі задуму драматурга і рэжысёра дакладней.

Няўжо, спытаеце вы, няма выдаткаў? Ёсць. На жаль, істотныя. Праўда, частку з іх можна выправіць. І яны паступова выпраўляюцца. Так, на першых спектаклях занадта прэтэнцыёзнай выглядала сцэна «сеанса чорнай магіі». Цяпер яе вырашэнне больш мяккае, з гумарам. А вось месца і функцыі воландаўскай каманды ў спектаклі мне здаліся не да канца вырашанымі. В. Бандарэнка (Азазэла) і У. Корпусь (Бегемот) іграюць эфектна, ярка, але, так бы мовіць, не ў суладдзі са сваім гаспадаром: пры тым Воланду, якога ўвасобіў Р. Янкоўскі, яны неяк не да месца. Не знойдзена ні форма, ні сэнс ролі Гелы (Н. Чамадурава). Кажуць, пра густы не спрачаюцца, але на мой густ з пластыкаю ў Гелы далёка не бездакорна. Замінае спектаклю і нечаканая змена рытмаў, а часам ён занадта манатонны. І яшчэ — нават у лепшых акцёрскіх работах Ю. Сідарава, У. Шэлестава, Р. Янкоўскага, А. Якаўлева малавата «душы». Інтэлектуальны бок роляў бездакорны, а чалавечая сутнасць не выяўлена. Спектаклю бракуе эмацыянальнасці. І я, дарэчы, не думаю, што дадатковыя рэпетыцыі ўнясуць у спосаб акцёрскага існавання нешта прынцыповае: занадта моцная рэжысёрская ўстаноўка на жанр інтэлектуальнай драмы-прыпавесці.

...Кожная эпоха можа зрабіцца часам майстроў ці часам юдаў. «Дазіроўка» іх, як і вынікі ўчынкаў, розныя. Трымаць жа адказ давядзецца ўсім без выключэння. За напісанае таксама: «рукапісы не гараць». Справа цяпер толькі за выбарам...

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

---

смяротным палётам: «...зямля і людзі не асірацеюць... Ужо ляцяць да яе з прасторы змроку новыя Майстры...» Так бы мовіць, адным Майстрам больш, адным менш... Пры гэтым світа называе Воланда таксама «майстрам», што дазваляе вельмі жыва ўявіць, якія мілыя людзі ляцяць да нас у гэтай зграі са змроку.

Такая п'еса-фантазія. А што ж тэатр? Ён зрабіў сціплыя рухі ў напрамку рамана. У многіх сцэнах зняты зварот да Воланда «майстар», крыху змякчаны фінальныя эпізоды—там Воланд выкрывае не Ешуа, а яго пасланніка — карыкатуру на Левія Матвея (Э. Гарачы). Але ў цэлым тэатр сумленна ўвасобіў канцэпцыю драматурга, не пераадолеўшы яе жанравых і сэнсавых супярэчнасцей.

Увогуле матэрыял рамана М. Булгакава такі, што ад яго ўвасаблення на падмостках чакаеш ці шумнага поспеху ці аглушальнага правалу. В. Маслюк здзейсніў немагчымае: ён паставіў досыць звычайны спектакль. Стабільны паводле прафесійнасці, няхітры па галоўнай думцы: майстры на зямлі ёсць і будуць, але і юды непазбежныя. Сцвердзіўшы тым самым непахіснасць светапарадку.

У спектаклі ёсць дакладныя акцёрскія работы — Берліёз (А. Кашкер), Марк Крысабой (А. Брухацкі), Міканор Іванавіч (В. Шушкевіч) і іншыя. Але, безумоўна, цэнтральнай фігурай спектакля з'яўляецца Воланд (Р. Янкоўскі) з прычоскай сярэднявечнага алхіміка і сучаснага рокера (доўгія валасы, сцягнутыя матузком), з абавязковай кульгавасцю (рыхтык прыкмета д'ябла), з лёгкім воблачкам серы, якое час ад часу вылятае з прыбора дзіўнай канструкцыі, які паўсюдах цягае за ім Бегемот. Воланд валодае іроніяй, магнетызмам, нейкай загадкай. У ім ёсць ганарыстая велічнасць, частку якой ён распаўсюджвае на сваю світу, што залішнім ніяк не палічыш, бо ў працэсе інсцэнізацыі тая панесла як калькасныя, так і якасныя страты: знік Фагот, а тыя, хто засталіся, пацярпелі некаторую... фаунізацыю. Пашкадаваўшы, відаць, адзінокага ката Бегемота (В. Корпусь), рэжысёр вырашыў зрабіць коткай Гелу (Н. Чамадурава). Яе пластыка, поза, медныя кіпці — усё гэта вельмі нагадвае мачыху беднай паненкі з гогалеўскай «Майскай ночы». Хоць фальклорная ведзьма ў свіце элегантнага Воланда (у трактоўцы акцёра блізкага міфалагічнаму Люцыпару) выглядае даволі дзіўна.

Майстар-Ешуа (У. Шэлестаў) прадстае ў спектаклі бездапаможнай ахвярай, выпадкова асуджанай на закланне. Такое рашэнне, на мой погляд, абессэнсоўвае вобраз. Выпадковасці няма ні ў гібелі Майстра, ні ў ахвяры Ешуа. Блукальніка-філосафа пакаралі, таму што сілы яго баяліся, Майстра прыбралі, таму што ён замінаў... Кожны з іх здзейсніў свой учынак і зрабіў свой выбар. У Ешуа была ісціна, у Майстра — яго раман. Ешуа — гэта вялікае, Майстар — памяць пра вялікае, якая дае людзям сілы заставацца людзьмі. Вырашэнне цэнтральных вобразаў спектакля, калі Воланд так безумоўна моцны, а Майстар-Ешуа так шчыра слабы, па сутнасці, пазбаўляе канфлікт драматычнай напружанасці, а дзеянне — дынамікі.

І ўсё ж, нягледзячы на тое, што спектакль выклікае ў мяне сумненні, а момантамі — і непрыманне, я лічу карысным гэтую спробу Рускага тэатра БССР — адну з першых спроб увасаблення Булгакава на беларускай сцэне. Пастаноўка закранае праблемы вельмі актуальныя для нашага грамадства. Гэта пацвярджаюць аншлагі на «Майстрах». Не будзем дробязнымі, не апусцімся да падлікаў, які працэнт глядацкага поспеху забяспечаны папулярнасцю рамана. Важней тое, што тэатр не абышоў гэтую цікаўнасць да Булгакава, не спалохаўся ні складанасці, ні адказнасці такога спектакля, ні магчымых памылак, якіх, дарэчы, і зрабіў багата.

**Галіна АЛІСЕЙЧЫК.**

---

**Без гучных анонсаў, сціпла адкрыў свой чарговы сезон Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР. Адкрыў без галоўнага дырыжора, без галоўнага рэжысёра і без мастацкага кіраўніка (народная артыстка БССР Н. Гайда пайшла з гэтай пасады праз некалькі месяцаў працы). Можна ўявіць сабе зусім не парадны настрой і не надта творчы тонус трупы, але... Можна ўявіць і іншае.**

**Тое, як пераўвасабляюцца акцёры, выходзячы штовечар да публікі (а ў зале стольні заўзятых аматараў аперэты!). Тое, як бесперабойна разгортваецца праца рэжысёра С. Штэйна над пастаноўкай «Прынцэсы цырка». Тое, як ансамбль партнёраў па сцэне жывіць яшчэ не растрачаная энергія тэатральнай імправізацыі — у нядаўняй прэм'еры, спектаклі «Клоп».**

**Дарэчы, пра гэтую прэм'еру. Рэдка такое бывае, але нават задаволеныя і захопленыя новай работай прыхільнікі жанру вінавата робяць агаворкі: «Штосьці не тое, здаецца, з лібрэта... Ці з музыкай... Не, усё ж з лібрэта: драматургія слабаватая... А следам і музыка...»**

**Яно і не дзіўна, калі «Клоп» выклікае супярэчлівыя ўражанні і ваганне думак: твор новы, напісаны спецыяльна для пастаноўкі ў Мінску, не мае шлейфу з аўтарытэтных меркаванняў і ацэнак.**

**Кампазітар В. Дашкевіч працаваў над лібрэта супольна з Ю. Кімам; працавалі над спектаклем рэжысёр В. Цюпа, дырыжор А. Сасноўскі, сцэнограф У. Жданаў, балетмайстар В. Бутрымовіч і многія іншыя. «Многія іншыя» гэта ў першую чаргу, канечне, артысты. І самаадданасць іх выканання нельга не заўважыць. Нават калі ўсё астатняе ў новым відовішчы выклікае раздражнёнасць, наводзіць на думку пра «избыточность» выразных сродкаў, пра бессэнсоўнае ў выніку, «метафізічнае суіснаванне» замкнёных у самім сабе рэжысёрскіх ці акцёрскіх эцюдаў — калі дасціпна-вынаходлівых, калі безгустоўна - пашлаватых. Нават калі «Клоп» успрымаецца як прэтэнзія аўтараў музычна - тэатральнай версіі ператварыць гісторыю Прысыпкіна ў.... трагедыю маленькага чалавека, расціснутага абставінамі бюракратычна - мяшчанскага грамадства.**

**Ці гэтак, ці інакш успрымае глядач новы спектакль па матывах У. Маякоўскага, ён заўважае выразную работу хору (хормайстар Н. Андросава), арганіку дуэтаў С. Якавец (Зоя) і Р. Харыка (Прысыпкін), умелую ігру аксамітнага голасу І. Лінкевіч (Эльзевіра), гратэскную кідкасць сцэнічных партрэтаў А. Касцецкага (Рэжысёр, Міліцыянер), А. Кузьмянкова (Сакратар, Беспрытульнік)...**

**Аднак ёсць крытыкі, якія зусім бязлітасна паставіліся да чарговага эксперыменту тэатра: «Дзеля чаго ўсё гэта?!» Сярод такіх крытыкаў маладая тэатразнаўца Н. Госцева, якая напісала іранічную, у духу фельетона, рэцэнзію. Яе вы можаце зараз і прачытаць.**

**АДДЗЕЛ МУЗЫКІ «ЛіМа».**

# І ўсё накшталт гэткага

**«КЛОП» — спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР**

А чаму б Зоі Бярозкінай не застрэліцца ў канцы вяселля Прысыпкіна і Эльзевіры, дарэчы, заадно ўжо і ў канцы спектакля (як гэта ў В. Цюпы), а не да таго (як гэта ў У. Маякоўскага)? Калі гэтак зручней, чаму б і не? І заспявае тады раскаяны Скрыпкін: «Ничего-то мне не надо, лишь бы милую вернуть...» І рухне недалёка ад нерухомай сваёй каханай Зоі. А гледачу, які незнаёмы з камедыяй У. Маякоўскага «Клоп», і няўцям, што нічога такога Прысыпкін-Скрыпкін нават і не думаў, што сустрэнуцца яны яшчэ, Зоя Бярозкіна і Іван Прысыпкін, воляю аўтара, праз паўстагоддзя ў інстытуце чалавечых уваскрэсенняў. І тады Зоя скажа: «Я прожила пятьдесят лет вперед. а могла умереть пятьдесят лет назад из-за такой мрази» (Маякоўскі У. Выбраныя творы. М., 1982, стар. 482). Так, не даведаецца пра гэта глядач. Зрэшты лепш пра ўсё па парадку.

Такім чынам — «Клоп»: спектакль Тэатра музычнай камедыі БССР, або, як абвяшчае праграмны аркуш, «тэатральная варыяцыя на адну тэму фольк-опера ў 2-х актах па матывах твораў У. Маякоўскага».

Вызначана мудрагеліста і наўрад ці вытлумачальна. Хоць наконт фольк-оперы пэўную яснасць уносяць Сінеблузнікі — юнакі і дзяўчаты ў сініх рабочых камбінезонах, якія хорам дакляруюць:

**Именем товарищей Гуно и**
**Чайковского**
**Даешь оперу по мотивам**
**Маяковского!**

Не магу сказаць, якім чынам спрыялі гэтаму імёны вышэйуказаных «таварышаў», але музыка, напісаная кампазітарам В. Дашкевічам (вядома, пры досыць актыўнай дапамозе «фольк»), аздабляе спектакль. Мелодыі лёгка запамінаюцца, іх слухаюць і выконваюць, як мне падалося, з прыемнасцю. Праўда, найбольш поўнаму іх успрыманню перашкаджае крайняя напружанасць слыхавога апарата гледача...

Але каб аблегчыць нялёгкую глядацкую долю, сёе-тое было ўсё ж зроблена. Так, на авансцэне ўстанавілі тры мікрафоны, а ў многіх эпізодах мікрафоны пабачыш яшчэ і ў руках выканаўцаў. Ну, а ў другім акце спектакля з'явілася нават выключнае вынаходніцтва: у час чырвонага вяселля Прысыпкіна і Эльзевіры са столі на тросах спусцілася вялізная ружовая свіння і, крыху прыўзняўшыся над сцэнай, павісла, хістаючыся з боку ў бок. А мікрафон прытуліўся ў яе пад хвастом. Дзякуючы такому «пікантнаму» вынаходніцтву відовішча перыядычна спяваючага ў мікрафон Сакратара (ён жа Беспрытульнік), які абачліва адсоўвае хвост, можна аднесці да аднаго з найбольш уражлівых месц у спектаклі. Іх няма-ла, такіх «фантазійных» дэталяў. Адкуль? Адказваючы на гэтае пытанне, відаць, можна цалкам даверыцца ўсё таму ж хору Сінеблузнікаў, які сумленна папярэджвае:

**Там убавим, там прибавим,**
**Но в главном, конечно же,**
**все оставим.**

Апошнія словы, думаецца, слушныя толькі ў дачыненні да назвы. Яе сапраўды чамусьці пакінулі (магчыма, прычынай для гэтага сталася «Балада пра клапа», якую натхнёна выканалі хорам Сінеблузнікі?). Што ж датычыць зместу, то пры



ўсёй стараннасці стваральнікаў спектакля, якія ў даволі туманных паняццях вызначалі, але так і не вызначылі жанр свайго твора... Дык змест наўрад ці можа прэтэндаваць на назву п'есы, якая з такой сілай выкрывае «абываценіуса вульгарыса» і «клопуса нармаліса».

**Цяпер адносна «матываў» У. Маякоўскага. Справа ў тым, што некалькімі, досыць скалечанымі, выказваннямі Івана Іванавіча з «Лазні», запазычанымі для музычна-камедыйнага Сакратара, і некаторымі агульнабюракратычнымі, таксама «лазневымі», рысамі ў ім жа гэтыя «матывы» вычэрпваюцца.**

**Далей. Наконт «прибавим». Вось у гэтым якраз недахопу ў спектаклі не будзе.**

**Прыбаўленне найпершае — яблык. То ён зробіцца вялізным зеленавата-жоўтым зіхоткім фонам, то маленькім, але таксама зіхоткім з'явіцца ў руках Алега Баяна, потым павісне ў яго на шыі, а потым яшчэ недзе і яшчэ ў некага. І той яблык, аказваецца, — нейкі сімвал: «соблазна, познания, мечты, всего на свете». Так мяркуе рэжысёр. (Так гаварыў ён на сустрэчы гледачоў са стваральнікамі спектакля пасля прэм'еры 19 красавіка 1988 года).**

Не менш адметныя і «прыбаўленні» ў вонкавых пераўтварэннях некаторых вобразаў. Так, напрыклад, Прадавец селядцоў, у спектаклі вельмі прыкметная фігура, — гэта... ліфчык, бязлітасна размаляваны твар, ператвораны ў мярзотную заганную маску. Гэтая постаць перамяшчаецца па сцэне слізгуча-паўзучымі рухамі, пяшчотна, знізу ўверх, пагладжваючы тонкую доўгую рыбіну, якая целяпаецца каля сцягна. Адпавядае яму і Сакратар, які з'явіўся на чырвонае вяселле ў аксамітным, чырвоным з жоўтым калеце і ў да непрыстойнага тонкім балетным трыко.

Аднак, гаварыць пра імправізацыі толькі рэжысёра-пастаноўшчыка і мастака ў гэтай складанай справе «прыбаўленняў», значыць незаслужана абмінуць акцёраў, вынаходлівасць якіх у спектаклі не на апошнім месцы. Ці на карысць гэта спектаклю? Хто ведае... Ды што б там ні было — два маленькія прыклады.

Сцэна маладзёжнага інтэрната. Хто дзе і хто на чым. Першай фразай, якую пачуе глядач, будзе немым голасам пракрычаная і невядома каму адрасаваная пагроза «Убью,...!» (другое слова — зварот я не бяруся працытаваць, замяняю яго на шматкроп'е).

**А вось трамвай, дзе, трымаючыся за ўяўныя парэнчы, едуць панкі, рокеры, Беспрытульнік-металіст, а з імі і Ваня Прысыпкін, у якога раптам знік кашалёк. Добрая справа — акцёрская эрудыцыя! Беспрытульнік (ён жа ў спектаклі Сакратар) нагадае тут злодзея Кірпіча з тэлесерыяла «Месца сустрэчы змяніць нельга», вельмі здорава пераняўшы знакамітае сіпенне: «Косалёк, косалёк, какой косалёк?».**

**Так, і ўсё гэта — на батуце, ледзь не забылася вам паведаміць. Пасярод сцэны ўстаноўлены велізарны батут, на сетцы якога па чарзе пабываюць ці не ўсе персанажы спектакля. Там млява і паўлежачы будзе заклікаць Прысыпкіна да кахання дзябёлая Эльзевіра, сціпла і міла спяе «пісню ткачых» Зоя Бярозкіна, пераможна падскокваючы, падзеляцца сваімі планамі з гледачом Мадам Рэнесанс і Алег Баян.**

Але ў рэшце рэшт усе знікнуць, і ўвагай нашай завалодае лазерны феерверк, які цэлую мінуту наглядна дэманструе ўжо абрыдлыя дасягненні ў галіне выкарыстання палярызаванага святла, а на чорным фоне паступова выступіць велізарная выява пасмяротнай маскі чамусьці У. Маякоўскага. Потым усё патухне, заціхне. Толькі Прадавец шароў з чагосьці журботна зацягне, што ва ўсіх на свеце таты ёсць і мамы, а ён, маўляў, круглы сірата, ды Сакратар, выскачыўшы з глядзельнай залы, будзе бегаць па сцэне, і вельмі актуальна будуць гучаць ягоныя пытанні: «Хто гэта? Што гэта?»

**Н. ГОСЦЕВА.**

*Служба зваротнай сувязі*

# ЛІМІТ-ДЭФІЦЫТ?..

«КАЛІ пры сустрэчы знаёмыя цікавяцца, як я жыву, дык звычайна адказваю, жартуючы: «Жыву два дні на тыдзень — у пятніцу хаджу ў лазню, а ў суботу атрымліваю газету «Літаратура і мастацтва», — напісаў нам даўні прыхільнік «ЛіМа» С. Мітраховіч. Але ў кожным жарце ёсць доля праўды... Сапраўды, сустрэча з друкаваным словам сёння — падзея для чытача. Такі ўжо час настаў, калі толькі і чуеш вакол: вы чыталі? Вы падпісаліся?.. Як вядома, апошняе пытанне сёлета асабліва актуальнае, таму што ў час, калі проста недапушчальны дэфіцыт інфармацыі, гэты дэфіцыт настойліва стукаецца ў дзверы. Ну, а што з розпічным продажам? Як тут задавальняецца попыт чытача? І ў якіх узаемаадносінах чытач з беларускамоўнымі газетамі, у прыватнасці, з «ЛіМам»?

На гэтыя пытанні, аказваецца, можна знайсці адказы ў чытацкіх пісьмах.

Мы невыпадкова вынеслі ў пачатак агляду прызнанне аднаго з прыхільнікаў «ЛіМа». Ён не адзіны ў сваіх інтарэсах. А. Гуркоў з *Мінска піша*, напрыклад: «Кожны нумар чакаю, як асаблівае свята. Калі прыходзіць субота, атрымліваеш інтэлектуальны зарад на цэлы тыдзень...» А вось што расказала настаўніца рускай мовы і літаратуры Запалянскай васьмігодкі Івацэвіцкага раёна А. Лушчык: «Упершыню трапіў мне «ЛіМ», калі прыйшла працаваць у школу пасля заканчэння рускага аддзялення філалагічнага факультэта. Мне пашанцавала: мой калега, настаўнік беларускай мовы і літаратуры, выпісваў «ЛіМ» (большасць, паверце, гэтага не робяць) і мяне далучыў да газеты. Я ўдзячна яму, бо газета для мяне стала неабходнай, дала магчымасць быць у курсе ўсіх літаратурных і мастацкіх падзей у Беларусі». Прыемна, што і казаць, чытаць такое. Гэта з аднаго боку, а з другога... Чытачка працягвае: «З часам я і сама стала агітатарам не толькі вашага штотыднёвіка, але і іншых выданняў на беларускай мове. І многія сталі іх выпісваць. Бо людзі проста не ведалі, што ёсць, напрыклад, «ЛіМ»... Возьмем мяне. У школе, калі была яшчэ вучаніцай, пра «дарослыя» газеты нам не гаварылі, у інстытуце, на рускім аддзяленні філфака, і не заікаліся, рэкламы беларускіх газет і часопісаў няма. Вось і здзіўляемся, калі нам у рукі трапляе ваша газета».

Сапраўды, як гэта ні дзіўна, многія нават не ведаюць пра існаванне таго ці іншага беларускага выдання. А дзе-нідзе лічаць, што зусім неабавязкова з дапамогай газет прывучаць беларусаў з маленства да роднага слова. Прыслухайцеся да пісьма настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Каладзішчанскай школы Мінскага раёна Л. Грыгаровіч: «Я неаднаразова звярталася да школьнай адміністрацыі з пытаннем аб падпісцы ў школе на беларускія газеты і часопісы. Адказ быў заўсёды адзін: «Не маем права. Нам не дазваляюць. Ліміт». Так і вісіць у паветры гэтае пытанне трынаццаты (!) год. У нас вучыцца больш за тысячу дзяцей. А *ў школьнай бібліятэцы не знойдзеш* «Літаратуры і мастацтва», «Чырвонай змены»...»

Часам пра беларускамоўныя выданні не ведаюць і тыя, каму без знаёмства з пэўнымі газетамі і часопісамі проста немагчыма працаваць. Вось радкі з пісьма Г. Станкевіча з Барысава: «Неяк захварэла кіяскёрка, у якой я звычайна бяру газеты, і яе змяніла другая.

— Дайце «ЛіМ»,—звярнуўся я да яе ў суботу раніцай.

— А што гэта такое?

Чарга з цікавасцю слухала, як я тлумачыў...

Пасля гэтага пачаў высвятляць, як жа прапагандуюць у горадзе беларускамоўныя выданні. Ды ніяк! Кіяскёраў ставяць выпадкова. Большасць з іх не ведае беларускай мовы... Запіхнуць беларускамоўныя газеты ці часопісы куды-небудзь у куток—ніхто іх і не бачыць».

А вось што расказаў Пятрусь Капчык, філолаг: «Калі я прыязджаю пагасціць да сваякоў на Пухаўшчыну, то што я знаходжу ў паштовай скрынцы? А вось што: «Советскую Белоруссию», «Знамя юности», «Труд», «Сельскую газету» і адзіную беларускамоўную раёнку «Сцяг працы». Калі ж пачаў з сястрой і яе мужам гутарку пра «ЛіМ», «Звязду», «Чырвоную змену», то ў іх ад здзіўлення *«вочы палезлі з арбіт»*—ніколі (!) ім на пошце, дзе афармляюць падпіску, ніхто не прапаноўваў гэтыя выданні... 30 гадоў ім выпісваюць адны і тыя ж газеты, хаця ў сям'і жыве беларуская мова!..

Паглядзіце на тыражы газет,—працягвае чытач,—790 тысяч «Знамя юности» і 40 тысяч «Чырвонай змены»... Але мне не верыцца, што «Чырвонка» такая ўжо нецікавая».

Урач А. Людчык з Асіповіцкага раёна піша: «Як без «Литературной газеты» нельга ўявіць культурнае жыццё СССР, так без «ЛіМа» нельга ўявіць культурнае жыццё Беларусі».

У сувязі з гэтым многія чытачы спасылаюцца на матэрыял «Каб не разміналіся...», змешчаны ў «ЛіМе» ў пачатку года. Настаўнік гісторыі з Ровенскай вобласці піша па-беларуску ўпершыню. Напісаць нам прымусіў яго менавіта той артыкул. Чытач даўно знаёмы з многімі беларускімі газетамі і часопісамі. Таму ён і абурыўся: «Пісаць тое, што беларускамоўныя выданні беззмястоўныя, —беззмястоўна. «ЛіМ», скажам, я чытаю ад першага да апошняга радка».

Але той артыкул навеяў чытачам і іншыя думкі: як могуць тыя, хто павінен прапагандаваць роднае слова, не чытаць рэспубліканскіх выданняў?!

«Ці нармальна гэта,—пытаецца В. Целеш з Рыгі,—калі бібліятэчныя работнікі не чытаюць беларускай літаратуры, якая стаіць у іх на паліцах? Як яны могуць прапагандаваць гэту літаратуру сярод чытачоў? І ці нармальна, што ў беларускім аддзеле Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна чытачоў абслугоўваюць па-руску? Прыязджайце да нас у Рыгу, я завяду вас у любую бібліятэку горада, і вы ўбачыце, якая высокая тут культура: рускамоўнага чытача работнік абслужыць на рускай мове, а латыша—ён жа—на роднай. А паглядзелі б вы, як чытаюць латышскую газету «Літаратура і мастацтва». Цяжка знайсці тут чалавека, які б не чытаў гэту газету. Мне прыйшлося самому вывучыць мову, каб пастаянна яе чытаць, каб быць у курсе культурнага жыцця рэспублікі».

Але, як высветлілася, не толькі нежаданне перашкаджае іншы раз узяць у рукі наш штотыднёвік. Часам яго, аказваецца, проста немагчыма купіць.

Мінчанін А. Гуркоў, не дачакаўшыся прыезду ў Мінск, напісаў нам аб сваіх «прыгодах» з Гомеля, куды трапіў па справах: «Сустракаю суботу з надзеяй, што набуду «ЛіМ» у газетным кіёску. Але надзея хутка пераходзіць у расчараванне. Аказваецца, набыць «ЛіМ» у паўмільённым горадзе практычна немагчыма, таму што ён туды амаль не трапляе. У кіёску, у лепшым выпадку, адзін экземпляр. А ці не ў кожным трэцім кіёску чуў: «Такой газеты вообще не получаем». Пра якое ж культурнае жыццё тут можна казаць? Ад каго залежыць павелічэнне тыражу газеты і яго размеркаванне па гарадах і вёсках Беларусі?»

А між тым у афіцыйных адказах «Саюздруку» чытаем, што тыраж газеты ў розніцы рэалізуецца не поўнасцю, таму, маўляў, якія да нас прэтэнзіі?..

«На жаль, у нас не ўсе ведаюць, што ёсць «Літаратура і мастацтва», а калі ведаюць, то нялёгка купіць «ЛіМ», бо ў продаж ён ідзе малым тыражом» (У. Голубеў з Мінска). Мінчанін, рабочы У. Свірыд піша: «Беларускамоўнай перыёдыкі няма ў многіх гарадах рэспублікі. Я перакананы, што калі б «Звязда» і «ЛіМ» добра, а, магчыма, і настойліва рэкламаваліся, тыражы іх узраслі б...»

А В. Банайціс з г. Новая Вільня Літоўскай ССР сведчыць: «Попыт на «ЛіМ» у Вільні расце. Тыя 15 экземпляраў, што прыходзяць у горад, знікаюць з кіёска за два дні, і многія жадаючыя ўжо не знаходзяць «ЛіМ». Што з таго, што ўжо 15-ты раз падпісваецца дагавор пра супрацоўніцтва нашых рэспублік, калі нельга вырашыць такую дробязь?»

В. Чайчыц з Масквы сцвярджае, што ў сталіцы «штотыднёвік разыходзіцца даволі хутка. Быў час, калі я набываў яго ў кіёску непадалёк ад Краснай плошчы, дык заўсёды спяшаўся, каб не раскупілі зранку...» А згаданы ўжо ўрач з Асіповіцкага раёна А. Людчык паведамляе: «Вельмі дрэнна забяспечаны «ЛіМам» кіёскі на чыгуначнай станцыі Асіповічы. У два кіёскі паступаюць толькі тры экземпляры. У суботу яны знікаюць імгненна. Смешна сказаць: тры газеты на такі вялікі чыгуначны вузел! Кіяскёры звярталіся да кіраўніцтва з просьбай павялічыць колькасць «ЛіМа» для гандлю, таму што газета хутка разыходзіцца, да таго ж чытачы яе патрабуюць. Але па сённяшні дзень гэта справа з месца не скранулася. Прадаўцы сцвярджаюць, што без асаблівых намаганняў за тыдзень будуць разыходзіцца 40—50 экземпляраў «ЛіМа», а то і болей».

Вось так і атрымліваецца: дзесьці залішне многа чытачоў на малую колькасць газет, а дзесьці—наадварот. Чаму?

«Я пра тое, што мала хто газету «ЛіМ» выпісвае,—разважае пенсіянерка, былая настаўніца роднай мовы і літаратуры з Салігорска Н. Шырына.—Яно і сапраўды так. Здзівілася, калі даведалася, што ў Салігорск прыходзіць толькі 28 экземпляраў газеты. Калі палічыць, што ў Салігорску 11 школ, ды ў кожнай няхай сабе па 4 настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, то паглядзіце, што атрымліваецца. Не ўсе з іх, значыць, выпісваюць «ЛіМ», не гаворачы ўжо пра работнікаў культуры. Хачу сказаць, што не ўяўляю сабе настаўніка беларускай мовы і літаратуры, які не выпісвае і не чытае гэту газету. 37 гадоў я працавала ў школе, і першым дапаможнікам мне была «Літаратура і мастацтва».

Той жа П. Капчык таксама занепакоены такім становішчам спраў: «Хопіць ужо быць «тутэйшымі» работнікамі культуры, настаў час станавіцца работнікамі беларускай культуры, а без дапамогі «ЛіМа» імі стаць проста немагчыма».

Такім чынам, у пісьмах чытачоў выкрышталізоўваюцца тры асноўныя думкі: многія «ЛіМ» не чытаюць, бо яго, як і іншыя беларускамоўныя выданні, дрэнна прапагандуюць—у школах, бібліятэках, і ў гандлі; не прапагандуюць газету і тыя, каму па абавязках належыць гэта рабіць; калі хто і зацікавіцца штотыднёвікам, то часам проста не можа яго знайсці ў продажы.

Хацелася б закончыць агляд словамі пра «ЛіМ» выкладчыка іспанскай мовы СШ № 5 г. Наваполацка Я. Лапаткі. Вось што ён піша: «Звяртаюся за дапамогай да работнікаў «Саюздруку». Калі да вас прыходзяць падпісчыкі, не адгаворвайце іх, з жахам паўтараючы: «Што вы, гэта ж на беларускай!», а прыцягніце ўвагу да газеты, раскажыце аб ёй, парэкамендуйце падпісчыкам гэта выданне. І, думаецца, многія будуць вам за гэта ўдзячны. Мной асабіста газета чытаецца не з меншай цікавасцю, чым, скажам, «Литературная газета». І мы проста страцім права лічыць сябе культурнымі людзьмі, калі будзем ігнараваць гэта выданне толькі таму, што яно выходзіць на беларускай мове».

●

**Пракаменціраваць чытацкую пошту «ЛіМа» мы папрасілі начальніка Беларускага рэспубліканскага аб'яднання «Саюздрук» Г. І. ПАНФІЛОВІЧ. Азнаёміўшыся з падрыхтаваным намі аглядам, Галіна Іосіфаўна сказала:**

**— Я з цікавасцю прачытала пісьмы вашых чытачоў і рэдакцыйныя заўвагі да іх. Ёсць слушныя моманты. Але мяркую, што па адзінкавых фактах маляваць такую змрочную карціну, як гэта зрабілі вы, наўрад ці дапушчальна. Тады ўжо праводзьце сур'ёзнае сацыялагічнае апытанне і на яго аснове рабіце высновы.**

**Сёння перад чытачом надзвычай вялікі выбар таго, што чытаць і што выпісваць. Тая здаровая канкурэнцыя, я сказала б,—дух саперніцтва, аб якім сведчаць тыражы таго ці іншага выдання, павінны толькі радаваць. Гэта калі гаварыць пра выданні і пра падпіску на іх наогул. Што ж датычыцца беларускамоўных выданняў, скажам, часопісаў «Полымя» і «Маладосць», газет «Звязда» і «ЛіМ», дык, зноў жа, і тут справы сёлета не такія ўжо кепскія. Возьмем падпіску на іх на 1989 год па стану на 10 кастрычніка. У параўнанні з падпіскай сёлетняга года «Полымя» на будучы год мае ўжо 90,1 працэнта, а «ЛіМ»—91,5 працэнта. Гэта зусім неблагія паказчыкі, яны гавораць за тое, што зрухі тут у бок росту падпісчыкаў.**

**Ад супрацоўнікаў беларускамоўных выданняў, ад вас у тым ліку, мы нярэдка чуем папрокі ў свой адрас: маўляў, работнікі «Саюздруку» не праяўляюць максімум зацікаўленасці да іх прапаганды. Паверце, што гэта не так. Мы не можам не быць зацікаўленымі хоць бы з тае простай прычыны, што мы—арганізацыя гасразліковая, і кожны працэнт спісвання нерэалізаванай прадукцыі б'е па нашых інтарэсах, за гэтыя самыя працэнты мы нікога па галоўцы не гладзім.**

**Штомесячна мы праводзім дзень якасці, на якім скрупулёзна аналізуем становішча спраў у розніцы, прыслухоўваемся да кожнай, нават самай дробнай заўвагі, да крытыкі, стараемся выпраўляць недахопы і ўпушчэнні. А яны ў нас, вымушана пагадзіцца з вамі, ёсць. Не буду грахі ўтойваць, не заўсёды, на жаль, нашы работнікі праяўляюць неабходныя гнуткасць і разуменне.**

**І для таго, каб узаемных папрокаў было менш, нам, работнікам «Саюздруку», і вам, супрацоўнікам рэдакцый, трэба цясней кантактавацца, шукаць рэзервы, новыя формы для прапаганды таго ці іншага выдання. Напрыклад, часопіс «Полымя» распаўсюдзіў на прадпрыемствах і ўстановах сто тысяч рэкламных лістовак. Калі ласка, заказвайце і вы ў сваім выдавецтве паштоўкі, каляндарыкі, цэлафанавыя мяшэчкі і сумкі—усё, што можаце прыдумаць, а мы возьмем на сябе клопат прадаваць гэта і тым самым напамінаць пакупнікам пра ваш штотыднёвік, рэкламаваць і яго, і ягоных аўтараў. А ці былі супрацоўнікі «Літаратуры і мастацтва» калі-небудзь на сустрэчы з намі, работнікамі «Саюздруку»? Нешта я не памятаю такога. Чакаеце асаблівага запрашэння? А вы самі праявіце ініцыятыву, самі парупцеся, самі прыйдзіце да нас.**

**І не толькі да нас. Мо нават найперш не да нас, а да сваіх патэнцыяльных, не абуджаных яшчэ чытачоў. Тут непачаты край работы. Асабліва ў Мінску. У сталіцы рэспублікі столькі арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў, столькі навуковых і культурных сіл, а мы заўважаем, што падпіска на той самы «ЛіМ» ідзе тут больш туга, чым у іншых абласных гарадах. Чаму ж не пашукаць прычын гэтага? Чаму б нам разам не паглядзець, дзе выйсце з такога становішча? Чаму б нам разам не правесці ў горадзе свята вашай газеты?**

**Кажу ўсё гэта, не знімаючы адказнасці з сябе, з нашых работнікаў. Так, чытачы вашы маюць рацыю, што мы не заўсёды аказваемся на вышыні, што не ва ўсіх нашых кіёсках забяспечаны належны ўзровень працы. І, зрэшты, я ўсё ж схіляюся да таго, што агітаваць за сябе часопіс, газеты павінны самі, сваім зместам.**

**А што да канкрэтных нашых пралікаў, дык, безумоўна, слушныя заўвагі вашых чытачоў з Наваполацка і Асіповіч. Там у кіёсках сапраўды трэба перагледзець рознічныя тыражы для продажу «ЛіМа», тым больш, што спісваць іх у гэтых гарадах не даводзілася. У сувязі з гэтым будзе да вас просьба: пра кожны такі выпадак, пра кожны такі сігнал чытачоў паведамляйце нам.**

**І яшчэ адно. Вось у вас былі такія цікавыя публікацыі, як «Курапаты—дарога смерці» і іншыя. «ЛіМ» тады ідзе нарасхват. Чаму б вам напярэдадні не праінфармаваць нас аб сваіх цікавых матэрыялах, каб мы маглі зрабіць заяўку выдавецтву аб разавым павелічэнні розніцы? Гэта ж таксама від прапаганды. Майце гэта на ўвазе, таварышы лімаўцы. *Зрэшты, не толькі лімаўцы*, а і супрацоўнікі іншых нашых выданняў...**

●

Вось што давялося пачуць з вуснаў Галіны Іосіфаўны Панфіловіч. Што на гэта можна сказаць? У нечым маюць рацыю нашы чытачы (тав. Панфіловіч пагадзілася з многімі іх заўвагамі), у нечым мае рацыю і начальнік Беларускага рэспубліканскага аб'яднання «Саюздрук». У прыватнасці, мусім пагадзіцца, што рэдакцыя сапраўды зрабіла далёка не ўсё для прапаганды свайго выдання. Значыць, застаецца прыслухацца і да таго, што гавораць нашы чытачы, і да таго,што гавораць нашы распаўсюджвальнікі.

**Аддзел пісьмаў «ЛіМа».**

## Паэзія

**Васіль ВІТКА**



### Аўгіевы стайні

**(З міфалогіі)**

Як вам вядома, цар старажытнай Эліды
пакінуў па сабе незлічоныя неліквіды—
поўныя заскарузлага бруду стайні.

Клопат у Аўгія быў аднастайны,
толькі і ведаў, што множыў стойлы,
быў яго час царавання застойны.

Калі б не кемлівасць Геркулеса,
мы нізашто б не дайшлі да прагрэса.

З чаго пачынаўся на свеце прагрэс?
Закасаў па локці рукавы Геркулес,
ды, шануючы вас, у хлеў не палез,
не паклікаў на помач і талаку,
да стайняў ён скіраваў раку,
воды якое змылі настой.
Даруйце за рыфму: вось вам герой!

Госпадзі, ты адзіны рассудзіш некалі,
каму — вечны рай, каму — вечнае пекла,
цераз якія выдмы і рыфы
час у сусвет панясе нашы міфы:
ад вёсачкі чэзлай да матухны стольнай
мы толькі і робім, што чысцім стойлы.

Праўда, знайшоўся мужык быў сярдзіты,
стаў стойлы ламаць, заадно і карыты,
быў пэўны, управіцца без талакі,
без геркулесавае ракі,
ды не хапіла ні сілы, ні спрыту,
у міфах толькі і помняць Мікіту.

Зноўку заўзята б'юць капытамі стаеннікі,
іх наравістыя дочкі, зяці і сыны, і пляменнікі,
скрозь пакідаючы ўсюды адно
тое, што людзям вядома даўно.

Бражнічаў новы, абвешаны золатам ідал,
хоць корм не ў каня, а нямала накідаў.
Чэрава ўтхланіў — бывайце, не забывайце!
Не забываем, а разграбаем і разграбаем.
Не адвярнуцца, не адмахнуцца
ад наваросчанага паскудства.

Прымаўкі сутнасць, напэўна, ўжо ловіце
добра вядомай з даўняй пары:
калі стаеннікі топяцца ў золаце,
дык што сам сабе ты ні гавары,
чысцяць карыты ўсё ж фаварыты,
а стойлы заўсёды — залатары.

Ды што гаварыць! Нават памяць не хоча
прыгадваць былое—крый божа к ночы,
а то прысніцца Язэп Крывавы
з катам галоўным усёй дзяржавы.
Жах і дагэтуль душу працінае,
мабыць, той жах толькі з намі сканае.

Мілыя праўнукі, веку наступнага дзеці,
не стварайце ніколі куміраў на свеце,
не забывайце сэнс старажытных міфаў
пра Геркулесаў, а тым больш пра Сізіфаў.

Памяць людская не знае больш сумнага міфа,
чымся ахвярная праца Сізіфа.
Асуджаны Зеўсам на мукі і гора,
ён і дагэтуль усцягвае камень на гору.

Вось-вось, здаецца, да самае кручы/ падыме,
а цяжкая глыба з прукатам, з громам—
дадолу з вяршыні!

Гэтак няшчасны бядак, варты нашага жалю,
у векавечныя трапіў скрыжалі.

### Заложнікі

Пімену ПАНЧАНКУ

«Паўстань з народу нашага, прарок!»
Магчыма, некалі паўстане,
бо далягляд яшчэ ў тумане,
у попеле і сам, хто браў зарок.

А ён так верыў, так гарнуўся
да светлае надзеі на той дзень,
калі на вокліч: хто ідзе
яму мы скажам: беларусы.

Але заклятыя аброкам,
і мы паверылі: няма прарокаў,
і песні нашы аджылі,
хоць на дэкадзе, у Крамлі,
казалі, «Рана на Івана»
ледзь не да слёз расчуліла тырана...

Мінаюцца благанні і маленні,
мянюцца часы і пакаленні,
і толькі вечныя вандроўнікі —
кляймёныя казённым знакам: змоўнікі,

век вінаватыя пад сонцам
перад няўцямнай грамадой:
«Па колькі нам дасі чырвонцаў,
калі мы пойдзем за табой?»

Чые ж, чые мы спадарожнікі
і колькі яшчэ прыйдзе нас?
Каб толькі ў часе мы заложнікі,
а то ж ва ўладароў на час.

Хто ўжо ўхапіўся за жазло,
хапае заадно пагоны.
Грымяць каманды салдафона,
а нам і мову заняло.

Генералісімуса ў ранцы
о колькі яшчэ носіць іх!
Прыстасаванцы, прыстасаванцы —
сам Панчанка не зліча ўсіх.

О мой, душой збалелы брат,
як гэта прыкра і ганебна,
што мы ім для таго патрэбны,
каб толькі захаваць фасад,

а то заменяць раптам статус,
і ўсе яны ўжо не яны,
не тую плацяць ім зарплату,
не тыя званні і чыны.

Пакуль на свеце ёсць ААН,
у вотчыне з іх кожны — пан,
хаця імя яму — слуга,
сам сабе служыць як мага.

А хто ж тубыльцы? Дапаможнікі.
А мы, а мы — іх спадарожнікі,
дай бог, апошнія заложнікі.

### Прамова пра мову

Адзін тубылец навуковы
пра мову гаварыў прамову,
ну патрыёт — ні даць, ні ўзяць!

Ды як паверыць чалавеку,
калі на мове той сказаць
не мог ні слова, ні паўслова,
ні бэ, ні мэ, ні кукарэку?

---

*Прэстыж роднай мовы*

# ДЗЯРЖАЎНАЯ — ЗНАЧЫЦЬ РАЎНАПРАЎНАЯ

Ва ўмовах публічнасці мы нарэшце адчынілі яшчэ адну ідылічную заслону, да нядаўняга часу недатыкальную — рэальныя нацыянальныя адносіны, якія склаліся паміж народамі СССР. Аказваецца, і гэтым адносінам яшчэ далёка да сапраўднай дэмакратыі. Не кажучы ўжо пра эпоху сталінізму ці пра часы застою, калі гэтыя адносіны прыкрываліся крывадушнымі фразамі пра роўнасць народаў, «бязмежныя магчымасці» развіцця ўсяго нацыянальнага, нават у нашы дні маюць месца ўсім вядомыя эксцэсы (Закаўказзе, Казахстан, Якуція, Прыбалтыка і г. д.). Ці ж гэта не напамін аб тым, што нацыянальнае пытанне — праблема глыбока супярэчлівая і складаная, нягледзячы на «ідэйна-выхаваўчую работу», якая вялася доўгія гады, і аптымістычныя запэўніванні, што гэтае пытанне вырашана ўжо самым справядлівым чынам.

Я не буду пералічваць усе крыўды: не ва ўсіх народаў яны аднолькавыя. Але ёсць і агульнае — ствараецца атмасфера, якая заахвочвае «зліцце» народаў. Тое, што гэта «зліцце» часцей за ўсё ажыццяўляецца добраахвотна намаганнямі саміх суайчыннікаў і ў імя высакародных ідэй пабудовы камунізму, сутнасці справы не мяняе. У. І. Ленін прароча адзначыў: «...известно, что обрусевшие инородцы всегда пересаливают по части русского настроения...»

**Адно ўласнае назіранне. На аўтобусным прыпынку некалькі сучасна апранутых маладых людзей аб нечым зацікаўлена гутараць. Да слыху далятаюць фразы на добрай (!) беларускай мове. Божачка! Няўжо?! Падыходжу бліжэй—так і ёсць. Гавораць па-беларуску. Ды як? Не вытрымаў, спытаў: ці не філолагі,не мастакі? Не, рабочыя (!!!) з трактарнага, з «шарыкаў». І раптам з'едліва-вісклівы голас побач: «Ишь ты, повылазили, националисты проклятые... Хозяина нет на вас, беда-а-а...» Сказана гэта было на ламанай рускай мове сівым дзядком у зашмальцаваным пінжаку і гэткіх жа зашмальцаваных штанах з некалі чырвонымі, а цяпер брудна-рудымі лампасамі... (Можа чужыя штаны былі на ім... ) І ўспомнілася адразу горкая думка Ч. Айтматава, выказаная ў мінулагоднім інтэрв'ю часопісу «Огонёк»: «На жаль, ёсць сілы, якія ў самім народзе, і гэта часта бывае, адмаўляюць самі сабе. Яны занятыя самавыкрываннем і самаабгаворам. Я называю гэта нацыянальным нігілізмам.**

З'ява гэтая **такая ж рэакцыйная** , як **і сам нацыяналізм** (падкр. мной.— **Ю. А.**). А паколькі нацыянальны нігілізм у прэсе не згадваецца, не асуджаецца і ніякіх нараканняў на гэты конт не чуе, то некаторыя лічаць, што яны гуляюць у беспакараную бяспройгрышную гульню. Некаторыя з такіх «іГракоў» у карыслівых мэтах робяць сабе гэткі арэол «звышінтэрнацыяналістаў». У нас на Беларусі такімі «звышінтэрнацыяналістамі» бываюць не толькі асобныя людзі, але часам нават і цэлыя перыядычныя выданні. Хіба «Вячэрні Мінск» ад 25.VII.88 г. тэндэнцыёзна падабранымі «водгукамі чытачоў» на артыкулы «Пазіцыя ці поза?» вельмі ўжо яскрава не нагадвае такога вось айтматаўскага «іграка» ў бяспройгрышную гульню?

Так, трыццатыя, сталінскія гады да гэтага часу сядзяць у нашых душах, менавіта таму кожны намагаецца перш за ўсё засцерагчы сябе ад небяспекі.

Аднак усе найбольш свядомыя і чэсныя прадстаўнікі савецкіх народаў (і тых народаў, якім сёння «зліцце» быццам бы не пагражае) з заклапочанасцю назіраюць за нацыянальнымі працэсамі, якія адбываюцца ў нашай краіне, з заклапочанасцю, бо гэтыя працэсы далёкія ад таго, пра што некалі казаў У. І. Ленін: «Местные самоуправляющиеся учреждения и автономные сеймы определяют язык, на котором ведутся дела всех государственных и общественных установлений данной местности или края, причем всякое инонациональное меньшинство вправе требовать безусловной охраны прав своего языка на основании принципа равноправия, например, права получать ответ от государственных и общественных установлений на том же языке, на котором было обращение и т. д.».

**Згадаю яшчэ адзін прыклад з уласнага жыцця. Набіраю «09» і прашу—па-беларуску!—даць мне патрэбную інфармацыю. Прыемны дзявочы голас ветліва так, з усмешкай раіць мне: «Ой, а нельзя ли на нормальном языке, я ничего понять не могу! Извините...» Дзякуй хоць за «извините». Адчуваеце? На «нормальном языке»! Гэта —нармальна?**

Думаецца, што ленінскі прынцып нацыянальнага самавызначэння народаў, які ўключае таксама і поўнае, фактычнае раўнапраўе культур і ў першую чаргу нацыянальных моў, мусіць быць праведзены ў жыццё цалкам цяпер, у эпоху перабудовы. Бо, як гаворыць доктар філасофскіх навук У. М. Конан («Звязда», 22.IV.88), «у Беларусі... пад выглядам надуманай барацьбы з «нацыянал-дэмакратызмам» былі **вынішчаны** або **падаўлены** (падкр. мной. — **Ю. А.**) кадры нацыянальнай інтэлігенцыі, якія праводзілі вызначаны Леніным і партыяй курс развіцця нацыянальнай культуры ў жыццё... Памылкі застойнага перыяду, асабліва ў галіне міжнацыянальных адносін, у галіне культуры яшчэ далёка не пераадолены».

Адным са сродкаў і гарантый, якія павінны будуць перабудаваць гэтыя адносіны, павінен стаць пункт у канстытуцыях рэспублік аб тым, што мова народа, які жыве ў рэспубліцы і складае большасць яе насельніцтва, з'яўляецца дзяржаўнай мовай.

Аднак гэтае меркаванне, як і кожная новая ідэя, выклікае ў некаторых сумненні, а некаторыя, сярод якіх і акадэмік І. М. Ігнаценка, яго і зусім адхіляюць. Прычым часцей за ўсё абапіраюцца пры гэтым на вядомыя выказванні У. І. Леніна, што Расіі не патрэбна дзяжаўная мова, што гэта несумяшчальна з вызваленчай барацьбой пралетарыяту. У 1913—1914 гг. напярэдадні першай сусветнай вайны У. І. Ленін сапраўды гаварыў гэта, разглядаючы сітуацыю, якая склалася ў царскай Расіі. Можна ўспомніць яго артыкулы «Критические заметки по национальному вопросу», «Национал-либерализм и право наций на самоопределение», «Нужен ли обязательный государственный язык?», «К вопросу о национальной политике», «О праве наций на самоопределение». Аднак, бадай, ні адно сцвярджэнне У. І. Леніна, ні адна яго ідэя не тлумачылася нашымі «марксістамі» гэтак недакладна, як яго думкі аб дзяржаўнай мове.

Запрашаю чытача звярнуцца яшчэ раз да згаданага артыкула «Нужен ли обязательный государственный язык?». Вось што пісаў У. І. Ленін на пачатку 1914 года: «Что означает обязательный государственный язык? Это значит практически, что язык великороссов, составляющих м е н ь ш и н с т в о населения России, навязывается всему остальному населению России. В каждой школе преподавание государственного языка должно быть о б я з а т е л ь н о. Все официальные делопроизводства должны обязательно вестись на государственном языке, а не на языке местного населения».

Хіба ж незразумела, што тут У. І. Ленін выступае супраць адной абавязковай дзяржаўнай мовы ў шматнацыянальнай царскай Расіі, дзе на гэтай мове гаворыць меншасць насельніцтва? Калі прыняць прынцып адной дзяржаўнай мовы, то астатнія нацыянальныя мовы аказваюцца ў няроўным стане, значыць, гэта будзе ў вышэйшай ступені недэмакратычны акт. Далей, па Леніну, магчымы два шляхі развіцця: абсалютна адмовіцца ад дзяржаўных моў альбо прызнаць дзяржаўнымі мовы і іншых развітых народаў. У. І. Ленін гэтую другую магчымасць не адхіліў і не абвергнуў. Так, у крыху раней напісаным артыкуле «Либералы и демократы в вопросе о языках», параўноўваючы моўную сітуацыю ў Расіі са Швейцарыяй, ён ясна сказаў, што ў адной шматмоўнай краіне магчымы некалькі дзяржаўных моў і што гэта дэмакратычна і прагрэсіўна: «Маленькая Швейцарыя не теряет, а выигрывает от того, что в ней нет о д н о г о общегосударственного языка, а их целых три: немецкий, французский и итальянский».

У нас у краіне афіцыйна няма ніводнай дзяржаўнай мовы. Ёсць Канстытуцыя, якая гарантуе правы народаў на сваю мову, але **дэ факта**, хай і не занатаваная ў Канстытуцыі, існуе, толькі адна дзяржаўная мова. Ведаючы толькі яе (і ніякай іншай!), чалавек можа працаваць ва ўсіх саюзных рэспубліках — быць кіраўніком прадпрыемстваў, устаноў, працаваць у розных сістэмах, не ведаючы нават трох слоў нацыянальнай мовы рэспублікі.

І, наадварот, не ведаючы гэтай **дэ факта дзяржаўнай мовы**, не эможа, за выключэннем глыбока спецыфічных прафесій і спецыяльнасцей (настаўнік роднай мовы і г. д.), працаўладкавацца не ў сваёй рэспубліцы. (З жалем скажу і пра сваю родную ўстанову — тэатр імя Янкі Купалы, дзе (парадокс!) беларуская мова аказалася ў становішчы нялюбай падчаркі).

Такім чынам, сёння фактычна ў нашай краіне адна дзяржаўная мова. Яе статус настолькі трывалы, што тут сапраўды не патрэбны ніякія канстытуцыйныя гарантыі.

Саюз пісьменнікаў БССР, выносячы пытанне аб неабходнасці зацвярджэння беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай, не адмаўляе, што яна павінна спалучацца з рэальна існуючай агульнай для ўсіх краін мовай — рускай. Нацыянальна свядомыя грамадзяне нашай рэспублікі жадаюць надаць беларускай мове пэўныя правы і магчымасці існаваць побач з агульна прынятай па сутнасці мовай — рускай.

Сусветная практыка можа даць мноства прыкладаў таму, што наданне мове статусу дзяржаўнай якраз і з'яўляецца у вышэйшай ступені дэмакратычным актам. Некалькі дзяр-

(Заканчэнне на стар. 15).

*Пошукі, знаходкі*

# Напісанае — застаецца...

СТВАРАЛЬНІКА гэтага параўнаўча невялікага — недзе на 908 няпоўных тлумачальных пар — слоўніка мы з поўнай падставай маглі б называць у ліку пачынальнікаў нашай лексікаграфіі. На жаль, слоўнік да гэтай пары знаходзіцца ў рэестры ананімных.

Першыя пуцявіны айчыннай лексікаграфіі пачаў тарыць Францыск Скарына тлумачэннем этымалогіі біблейскіх імёнаў і назваў у сваіх прадмовах, а таксама ўвядзеннем на «боцех» друкаваных кніг «глосаў» — перакладам на простую мову незразумелых стараславянскіх слоў. Пасля практыкі Скарыны «глосы» сталі традыцыйнымі ў кніжнай справе. Пазней патрэбы чытача задавальнялі несамавітыя тлумачальныя азбукоўнікі, прыточнікі, якія звычайна дадаваліся ў канцы тэксту стараруду друкаў і насілі прыкладны характар.

Аднак ужо ў канцы XVI стагоддзя з'яўляецца «Лексіс з толкованіем словенскіх моў проста», па сутнасці першая ва ўсходніх славян спроба прафесійнага тлумачальнага слоўніка. На доўгі час ён згубіўся з поля зроку даследчыкаў. Але вось у 1884 годзе архімандрыт Амфілохій натрапіў у стара друку астрожскай «Бібліі» Івана Фёдарава на цікавую ўкладку. Гэта быў «Лексіс... проста», які Амфілохій неўзабаве і апублікаваў у матэрыялах «Чтения в обществе истории и древностей российских при Московском университете».

Паводле гэтай знаходкі аўтарства яго і лічылася за І. Фёдаравым. Але пазней сумеснае адшуканне «Лексіса... проста», са стара друкам «Бібліі» Фёдарава вучоныя палічылі недастатковай падставай у карысць аўтарства славутага друкара.

І самы першы аргумент — цалкам беларускі склад лексікі тлумачальнай часткі слоўніка. «Лексіс... проста», відаць, з-за ананімнасці, дарэмна занядбаны нашымі гісторыкамі мовы, у прыватнасці, амаль не даследавана яго беларуская лексічная аснова. А слоўнік жа сапраўдная скарбніца старабеларускага слова! Колькі тут нашых старых знаёмых — старажытных адпаведнікаў сённяшняй мове: певень, добрый день, нырки (почки), ласка, миса, щасливость (блаженство), дъякование, вдяченъ, зрозумель, зопсованье, пожедание, парканъ, позычаю, киваюся, крыница, досветчоное (искусное), оповедание, надутость, горнецъ медяный, жартливый, кожный, довстепъ (досціп), цегла, кожухъ, недбалость, непотребный, примушаю, бусель, норовъ (обычай), пилнование, заглядаю, палацъ, шкодникъ, войско, торба, шата (риза), гомонъ, скарбница, збан, радца (советник), справы, схавай, працую, утёкъ, вязни, выпущаю, сталый, моцный, ганьба, пагорки, личба, сподеваюся, гуща (гушчар), владность (дзяржава), надаремне, размаитыхъ. Нам могуць запярэчыць: некаторыя з гэтых слоў лічацца запазычваннямі з польскай мовы. Але ці так гэта? Знаёмства з нашай старой лексікаграфічнай спадчынай дазваляе якраз у нечым перагледзець пытанне аб уплывах з заходнеславянскіх моў. Тое, што раней лічылася паланізмам, мы знаходзім у слоўніках Вялікага княства Літоўскага, у «Лексісе... проста» і «Лексісе» Л. Зізанія, у «Лексіконе» П. Бярынды і «Сіноніме славянароскай», а аналагічныя, часам больш блізкія формы, у сербскай і чэшскай мовах. З апошняй найбольш цесна сутыкаўся Ф. Скарына ў сваёй перакладчыцкай дзейнасці, маючы прад сабою за ўзор чэшскую «Біблію» на народнай мове. Такім чынам, знаёмства з найбагацейшымі старажытнабеларускімі лексікаграфічнымі крыніцамі патрабуе ўдакладнення пытання аб уплывах, вымагае большай увагі да самастойнасці літаратурнай мовы Вялікага княства Літоўскага, што, больш чым якая іншая, захавала пераемнасць ад агульнаславянскага моўнага кораня, засвоіўшы яго багацце з рэдкай паўнатою.

Таму, зыходзячы з беларускага складу «Лексіса... проста» можна дапусціць, што яго аўтарам быў Лаўрэнцій Зізаній. Такое меркаванне пра аўтарства «Лексіса... проста» выказвалі В. В. Німчук, М. Б. Батвіннік. Была свая думка і ў М. Р. Судніка адносна аўтарства. Што ж, Зізаній — адзін з самых аўтарытэтных лінгвістаў таго часу, ён фактычна быў піянерам усходнеславянскага мовазнаўства. Асабліва ў карысць яго аўтарства сведчыць тое, што «Лексіс... проста» ўвайшоў амаль цалкам у яго вядомую лексікаграфічную працу, якую ён назваў таксама «Лексісам». Раней меркавалася, што пры яго складанні Л. Зізаній абапіраўся на вопыт стваральніка «Лексіса... проста». А калі дапусціць, што гэта была падрыхтоўчая спроба пяра самога Зізанія, з якой потым і вырас больш поўны ягоны «Лексіс», а з яго—яшчэ шырэйшы «Лексікон» П. Бярынды?

Так ці інакш сувязь «Лексіса» Л. Зізанія з «Лексісам... проста» відавочная. Падабенства адчуваецца нават у адценнях тлумачэння слоў. Напрыклад, тут і там слова «лик» падаецца ў значэнні не «лічбы», а як «танец» (ликование), «лесть»— як «здрада». Гэтага ў другіх лексікаграфічных помніках мы не назіраем.

І ўсё ж у ранейшай, хоць і аўтаматычна прынятай версіі, якая звязвае аўтарства «Лексіса... проста» з імем І. Фёдарава, на нашу думку, больш аргументаў «за». Па многіх прыкметах, напрыклад, як вытлумачэнне ўласных імён і геаграфічных назваў, «Лексіс... проста», мяркуючы па ўсім, складаўся як прыточнік да нейкага канкрэтнага тэксту старадрукаванага выдання. І да яго складання мог мець дачыненне менавіта Іван Фёдараў ці нехта іншы з вядомых выкладчыкаў Астрожскай акадэміі.

Што ж датычыцца цалкам беларускага лексічнага складу слоўніка, то і тут, думаецца, супярэчнасці асаблівай няма. Проста беларускі перыяд дзейнасці славутага выхадца з нашай старонкі амаль не даследаваны, вучоныя па-сапраўднаму ім яшчэ не цікавіліся.

РАЗГАДКА гэтага пытання прывяла мяне ў старажытны Львоў, дзе прыжыццёвыя выданні Фёдарава прадстаўлены найбольш поўна. Гартаючы старонкі фёдараўскіх старадрукаў, колькі я адкрыла для сябе невядомага, што не змагла (ці не паспела) знайсці па даведачных крыніцах тут, у Мінску. На свае вочы бачу яго «Буквар», «Граматыку», «Азбуку», старанна звяраю шматлікія паўторныя выданні іх. І зусім па-новаму пачынае выглядаць постаць нашага земляка. Стараславянскі тэкст яго лінгвістычных прац, як і ў Зізанія, нярэдка перасыпаны мясцовымі, беларускімі словамі, выразамі, увогуле фанетычнымі асаблівасцямі мовы Вялікага княства Літоўскага.

*Пра павагу да роднай мовы*, пра патрыятычныя пачуцці да зямлі, якая яго ўзгадавала, яскрава сведчыць абавязковае змяшчэнне ім у канцы кожнай сваёй кнігі вольнай інтэрпрэтацыі вядомага трактата «О письменах» Чарнарызца Храбра. І тут жа фёдараўскі палымяны заклік «Хвалите Господа вси языци и похвалите его вси людие. А не едиными тремя письмены, а языки, яко ж они баснословят».

Змяшчэнне ў выданнях І. Фёдарава твора X стагоддзя, у якім сцвярджаецца права славян на сваю кніжнасць, набывала вострае грамадска - палітычнае гучанне, было першай рэакцыяй на пракаталіцкія арыентацыі Пятра Скаргі.

Тут Іван Фёдараў салідарны з Францыскам Скарынам — даць «люду паспалітаму» кнігі Святога Пісання на блізкай і зразумелай яму мове. У сувязі з распачатымі езуітамі акаталічваннем і апалячваннем на Беларусі і Украіне Фёдараў, як паслядоўны праваслаўны ў ліку многіх дзеячаў брацкіх школ, усяляк імкнецца падкрэсліць адзінства ўсходнеславянскіх зямель, роднасць Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай Руссю. Адсюль яго справа жыцця — шырэй далучыць праваслаўнае насельніцтва да стараславянскай мовы праз выданне на ёй царкоўных кніг. Хаця ў рускай жа дзяржаве кнігі Фёдарава, як і яго папярэдніка Скарыны, напачатку былі прызнаны ерэтычнымі з-за вядомай рэлігійнай талерантнасці выдаўцоў і элементаў мясцовай мовы ў іх выданнях.

У львоўскіх пошуках у мяне, прызнацца, была надзея, што мне ўдасца адшукаць «Лексіс... проста» ў дадатку да фёдараўскай «Азбукі», як звычайна друкаваліся слоўнікі ў той час.

Аднойчы мне нават здалося, што я натрапіла на «Лексіс... проста» ў нататках вядомага заходнеўкраінскага вучонага М. Вазняка, змешчаных да выдання «Граматыкі» Л. Зізанія 1911 года. На жаль, гэта было скарочанае выданне «Лексіса» Зізанія...

Дзіўна, чаму пра «Лексіс... проста» маўчаць даследчыкі старых часоў, у прыватнасці, такія вядомыя славісты як Й. Добраўскі, што за набыццё астрожскай «Бібліі» Фёдарава абяцаў палову сваёй бібліятэкі, ці яго сябра В. Капітар, у якога Добраўскі знаёміўся з гэтым выданнем. З іх матэрыялаў мы і сёння здабываем найцікавейшыя звесткі пра Францыска Скарыну, пра малавядомую «Граматыку...» Івана Ужэвіча, нарэшце, пра «Лексіс» Зізанія, які яны высока ацэньвалі як адзін з першых крокаў усходнеславянскай лексікаграфіі.

АЛЕ ПАКУЛЬ ШТО рана закрываць праблему. Раней мы ўстанавілі прыточнікавы характар гэтага слоўніка. І гэта дае зусім нечаканы накірунак пошукам. У слоўніку ёсць адна важная для нас асаблівасць: значная частка тлумачальных пар даецца ва ўскосных склонах, у розных формах спражэнняў, характэрных спалучэннях слоў, г. зн. так, як яны ўжыты ў тэксце кнігі, да якой слоўнік прыдаваўся. Зверка яго з тэкстамі, найперш выданняў Івана Фёдарава, найбольш верагоднага яго аўтара, пэўна пацвердзіць ісціну.

Справа за далейшымі архіўнымі пошукамі.

**Алена ЯСКЕВІЧ.**




**З 17 ПА 23 КАСТРЫЧНІКА**

**18 кастрычніка, 20.40**
**«ЗАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**
Агляд крытычнай пошты за тыдзень.

**18 кастрычніка, 21.50**
**«ЛІРА»**
Мастацка-публіцыстычная праграма.
Сустрэча з пісьменнікам доктарам філалагічных навук Ф. Янкоўскім, якая адбылася ў Мінскай цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы.

**19 кастрычніка, 23.40**
**«ПАСТСКРЫПТУМ»**
Актуальны каментарый па пытаннях музычнага жыцця.

**21 кастрычніка, 20.15**
**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**
Вершы М. Рубцова ў перакладзе У. Скарынкіна чытае М. Пінігін.

**22 кастрычніка, 11.40**
**«МАЛАДОСЦЬ МАЯ НЕЗАБЫЎНАЯ»**
Успамінае Я. Бяганская.

**22 кастрычніка, 17.25**
**«З РОДУ У РОД»**
Сустрэчы паэтэсы С. Басуматравай з удзельнікамі самадзейнага ансамбля народнай песні і танца з вёскі Тажылкавічы Магілёўскай вобласці.

**22 кастрычніка, 17.55**
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**
Фестываль тэлевізійных музычных праграм.
М. Аладаў. Старонкі жыцця і творчасці.

**22 кастрычніка, 19.35**
**«СТАЛАСЦЬ»**
Літаратурны вечар, прысвечаны 70-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі. Вядучы — С. Законнікаў.

**22 кастрычніка, 23.10**
**«МУЗЫЧНАЯ ПРАГУЛКА»**
Эстрадная праграма.

**23 кастрычніка, 19.20**
**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**
Фестываль тэлевізійных музычных праграм.
*Я. Глебаў. Старонкі жыцця і творчасці.*

**23 кастрычніка, 23.05**
**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**
Інфармацыйна-музычная праграма.



Супрацоўнікі Літаратурнага музея Якуба Коласа выказваюць глыбокае спачуванне навуковаму супрацоўніку музея Сінькевіч Валянціне Мікалаеўне з прычыны вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01409

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 32-24-62, карэктарскай — 32-20-64, машынапіснага бюро — 33-44-04, бухгалтэрыі — 23-73-37.